ўлення Польшчы ў межах 1772 года. Кастусь Каліноўскі выступіў супроць палітыкі, імкнуўся разбудзіць усеагульнае паўстанне, якое дало свабоду і незалежнасць усім народам, прыгнечаным царскай Расіяй. Погляды Каліноўскага падзялялі не толькі беларусы, але і палякі, польскія сяляне. Пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ваявалі ўсе супольна за супольную справу. Нездарма Кастуся Каліноўскага завуць героем двух братніх народаў: беларускага і польскага. Камітэт па адзначэнню 120 годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, які існуе ў Беластоку, разгортвае сваю дзейнасць. Пастаноўлена пабудаваць Дом-помнік Кастусю Каліноўскаму, дзе знайшлі б сабе адпаведныя памяшканні гурткі мастацкай самадзейнасці, гурткі народнай творчасці і Беларускі хор і тэатр. Зразумела, што будуць тут пераховувацца рэдкія памяткі і дакументы аб Каліноўскім. Камітэт звяртаецца да ўсяго грамадства Беласточчыны і краіны з просьбай складаць добраахвотныя грашовыя ахвяры. Галоўнае Праўленне Беларускага грамадскакультурнага таварыства ўжо выасыгнавала і пераслала 10 тыс. злотых на рахунак Камітэта пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму. Неабходна таксама, каб усе аддзелы нашага таварыства прыступілі да збірання дабраахвотных грашовых складчын. Справа пабудовы Дома-помніка Кастусю Каліноўскаму – гэта справа ўсяго грамадства нашай краіны. Супольнымі сіламі пабудуем Дом – помнік Кастусю Каліноўскаму!" („Пабудуем Дом-помнік Кастусю Каліноўскаму", „Ніва", nr 34, z dn. 24.08.1958 r., s. 1).

Wkrótce podano numer konta w banku, na który można wpłacać dobrowolne składki wraz z informacją o jego stanie i o wpłaceniu nań 100 tysięcy złotych przez Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej: „Ужо сабрана 111.765 зл на пабудову Дома Помніка К. Каліноўскаму ў Беластоку, у тым ліку Камітэт атрымаў 100.000 зл ад Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай. Чытачы! Складайце добраахвотныя складчыны на пабудову Дома – Помніка". („Ніва", nr 40, z dn. 5.10.1958 r., c. 1).

Na łamach „Zorki" zwracano się ze szczególnym apelem do uczniów: „Яны – шыбеніцу, мы – помнік. Давайце пагаворым аб Кастусю Каліноўскім. Хто ён і чаму мы шануем яго памяць" – так распачаў свой урок з вучнямі настаўнік па беларускай мове ў вёсцы Н. (...) Цяпер у Беластоку пакліканы камітэт будовы помніка Кастусю Каліноўскаму. Цар і паны збудавалі яму шыбеніцу. Шыбеніца разляцелася. А мы супольнымі сіламі збудуем Каліноўскаму помнік..." (Ж. Дубок, Яны – шыбеніцу мы – помнік, „Зорка", nr 47, z dn. 23.11.1958 r., s. 1, 3.).

Akcja społeczna zbierania środków na budowę domu-pomnika nie przyniosła jednak oczekiwanych efektów. Wpłat było mało i ich wysokość nie była wysoka. W „Nivie" informowano o nielicznych wpłatach: „На „Дом-Помнік" К. Каліноўскаму, уплацілі: Ф. Баслык – 55 зл., Ул. Лазінскі 20 зл., Школа ў Седліскаx, павет Ольштын – 52 зл., ПСС у Беластоку – 2.000 зл. Просім чытачоў прысылаць свае дабраахвотныя складчыны на конта камітэта: ПКО – 12-9-315 у Беластоку" („Ніва", nr 19, z dn. 10.05.1959 r., s. 7). W „Zorce" Henryk Biernikowicz (syn Franciszka Biernikowicza) informował o zebraniu na ten cel w Siedliskach pod Giżyckiem 217 zł 60 gr (Г. Берніковіч, На Дом Каліноўскага, „Зорка", nr 22, z dn. 31.05.1959 r., s. 7).

Latem 1959 r. pod znakiem zapytania stanął problem budowy domu-pomnika ze względu na niskie wpływy środków ze społecznej zbiórki. Wywołało to na łamach „Nivy" dyskusję, czy będzie i czy w ogóle warto budować taki dom. Pytania takie stawiali czytelnicy, co świadczyło zdaniem redakcji o zainteresowaniu inwestycją: „Мы атрымалі некалькі лістаў, у якіх нашы чытачы пытаюць, ці будзе пабудаваны Дом-помнік К. Каліноўскага, аб якім мы даволі шырока пісалі з канцы мінулага і на пачатку гэтага года. Лісты з пытаннямі нашых чытачоў гавораць аб тым, што памяць аб вялікім сыне беларускага і польскага народаў, Кастусю Каліноўскім, жыве ў нашым народзе. Бо сапраўды К. Каліноўскі на гэта заслугоўвае. І калі б такі Дом пабудаваць у Беластоку, гэта быў бы найлепшы помнік вялікаму герою. Ці будзе пабудаваны Дом? На гэтае пытанне нельга адказаць адным словам – так, або не. Пабудова Дома-помніка залежыць ад грашовых складчын нашага грамадства. Як дагэтуль, складчыны вельмі малыя. Камітэт пабудовы сабраў усяго 121.000 зл. Зразумела, што за гэтыя грошы не зможам пабудаваць Дом, у якім – як мы пісалі – быў бы беларускі тэатр, ці сцэна для мастацкіх гурткоў і г. д. Камітэт пабудовы Дома – помніка К. Каліноўскага запланаваў сваю дзейнасць да 1964 г. Да гэтага часу Камітэт павінен: 1) Перайменаваць вуліцу Новасасновую ў Беластоку на вуліцу К. Каліноўскага. 2) На радзіме К. Каліноўскага ў Мастаўлянах умураваць у новапабудаваную школу мемарыяльную дошку і прысвоіць гэтай школе яго імя. 3) На працягу 5 год Камітэт пры дапамозе ўсяго грамадства мае сабраць сродкі на пабудову Дома – помніка К. Каліноўскага ў Беластоку і ў 100-гадавіну смерці закласці фундамент пад гэты дом („Ці будзе пабудаваны Дом-помнік К. Каліноўскага?:, „Ніва", nr 34, z dn. 23.08.1959 r., s. 5).

W ramach dyskusji czytelnicy, jak np. Piecia Iwaniuk z Plosek, proponowali rozwinąć akcję zbioru środków przez czytelników „Nivy": „Вы пісалі ў апошнім нумары „Нівы", што грамадскі камітэт пабудовы Дома – помніка К. Каліноўскага сабраў мала грошай. На маю думку неабходна пабудаваць гэты дом і такім чынам ушанаваць памяць нашага героя. Патрэбна таксама дапамагчы камітэту ў зборы грашовых сродкаў. Я думаю найлепш было б, каб кожны чытач нашай газеты правёў працу ў сваім асяроддзі, сабраў грошы і выслаў на адрас Камітэта, або рэдакцыі. І таму, заклікаю ўсіх чытачоў распачаць збор грошай, і падтрымаць гэтым самым ініцыятыву грамадскага камітэта" (П. Іванюк, „Трэба па-

будаваць Дом-помнік К. Каліноўскага", „Ніва", nr 25, z dn. 30.08.1959 r., s. 7). Krytycznie o zbieraniu środków wyraził się również Franciszek Biernikowicz z Siedlisk: „на працягу амаль цэлага года Камітэт змог сабраць (...) 21 тыс. зл. (нельга лічыць 100 тыс. зл. атрыманых з ВРН у Беластоку). На аснове ўсяго гэтага можна сцвердзіць, што Камітэт бяздзейнічае, бо інакш гэта цяжка зразумець. Да гэтага часу, так здаецца, толькі рэдакцыя „Ніва" праяўляе ў гэтай справе якую небудзь ініцыятыву. Але рэдакцыя не можа кіраваць гэтай справай, і таму неабходна ажывіць Камітэт. На мой погляд, гэтай справай павінна больш заняцца Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Трэба, каб яно паклікала пры ГП БГКТ падкамітэт будовы Дома-помніка. Падкамітэт павінен складаць на кожным пленарным пасяджэнні ГП БГКТ справаздачу аб сваёй працы. Думаю, што спаборніцтва ў гэтай справе польскага і беларускага грамадства ў нічым тут не пашкодзіць. Тым больш і дагэтуль такое спаборніцтва існуе, але існуе яно ў бяздзейнічанні. Пакрываць недахопы працы Камітэта пабудовы Дома – помніка тым, што падымалася для гэтага шмат акцый, нельга. У апошні час адзін з часопісаў паведаміў, што ў самым Беластоку, жыхары гэтага горада выпіваюць у год на дзесяткі мільёнаў зл. гарэлкі. Гэта зусім не гаворыць аб недахопе сродкаў. Справа пабудовы Дома-помніка Кастуся Каліноўскага – гэта важная справа не толькі таму, што гэтым умацуе памяць свайго народнага героя, хоць гэта і найважнейшая мэта, але і таму што, будуючы Дом-помнік, мы прыложым цаглінку да развіцця беларускай культуры. Гэтым самым мы падтрымаем аўтарытэт Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а гэта не благая справа" (Ф. Берніковіч, Яшчэ раз аб пабудове Дома-помніка К. Каліноўскага (Артыкул дыскусійны), „Ніва", nr 36, z dn. 6.09.1959 r., s. 7).

Sprawa budowy domu-pomnika K. Kalinowskiego została ostatecznie rozstrzygnięta w 1964 r. W międzyczasie ulicę Nowososnową w Białymstoku nazwano imieniem K. Kalinowskiego. W 1959 r. w Mostowlanach zaś oddano do użytku nowo wybudowaną szkołę podstawową, którą miano nazwać imieniem K. Kalinowskiego. Z dziennikarskiego obowiązku udał się tam Sokrat Janowicz, ale nie nadano wówczas ani imienia patrona, ani nie odsłonięto dwujęzycznej tablicy na szkole. Relacje z rozpoczęcia roku szkolnego w Mostowlanach przedstawił w „Nivie": „Еду ў Мастаўляны. Яшчэ раз прыпамінаю ўказанне галоўнага рэдактара. Значыць маю зрабіць некалькі здымак з урачыстага распачацця першага навучальнага года ў школе імя Кастуся Каліноўскага ў Мастаўлянах. А ўжо абавязкова трэба было сфатаграфаваць мемарыяльную дошку ў двух мовах на сцяне школы! Гістарычная місія! Школьны будынак прывітаў пусткай. Пусткай дзіўнай майму прыўзнятаму настрою? Некалькі дзесятак дзяўчынак і хлопчыкаў сабралося на калідоры. Пачынаецца першы вучнёўскі ранішнік у наступаючым навучальным годзе. Кіраўнік Мікола Рэмжа сардэчна вітае ўсіх выхаванцаў. Я, як адзіны афіцыйны госць, таксама „дакладаю сваіх тры грошы". Пачатковай школе ў Мастаўлянах яшчэ не прысвоена імя Кастуся Каліноўскага. Гэтая ўрачыстасць мела адбыцца 2-га верасня г. г. Аднак тут нібы перашкодзіла рэарганізацыя Аддзела культуры ў Беластоку. На сценах школы не ўбачыў не толькі двумоўнай мемарыяльнай дошкі, але нават і школьнай шыльды. Старшыня мясцовай грамадскай рады Міхась Усовіч нешта прыпомніў, што крыху там узбіралася грошай на „гэтую дошку". Але, калі ніхто з уладаў гэтым не цікавіцца... то...? Дарэчы будзе дадаць, што Міхась Усовіч з'яўляецца членам Камітэта пабудовы помніку Кастусю Каліноўскаму, які існуе ў Беластоку". (С. Яновіч, „Зазвінеў званок", „Ніва", nr 36, z dn. 7.09.1958 r., s. 1).

Odsłonięcie dwujęzycznej tablicy ku czci K. Kalinowskiego w Szkole Podstawowej w Mostowlanach przeniesiono na 22 lipca 1959 r., ówczesne święto odrodzenia Polski. Już w maju 1959 r. informowano o tym na łamach „Nivy": „22 ліпеня г. г. на радзіме вялікага змагара за вызваленне польскага і беларускага народа К. Каліноўскага, у Мастаўлянах, у новапабудаванай школе будзе ўмуравана мармуровая мемарыяльная дошка, грошы на якую сабрала мясцовае насельніцтва" ((мб), „Мемарыяльная дошка К. Каліноўскаму", „Ніва", nr 21, z dn. 24.05.1959 r., s. 2). Relacja Piotra Czerniakiewicza z odsłonięcia tablicy i jednocześnie nadania szkole imienia K. Kalinowskiego wskazuje, jak postać K. Kalinowskiego wykorzystano do uczczenia 15. rocznicy Polskiego Komitetu Wyzwolenia Narodowego: „Невялікая вёска Мастаўляны, урачыста адзначыла свята 22 ліпеня. Дзень пятнаццацігоддзя спалучыўся тут з урачыстым адкрыццём мемарыяльнай дошкі, умураванай у сцяну мясцовай школы і прысваеннем гэтай школе імя Кастуся Каліноўскага. Тут у Мастаўлянах 121 год таму назад нарадзіўся Кастусь КАЛІНОЎСКІ – змагар за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларусаў і палякаў, арганізатар і кіраўнік студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве. З самага ранку 22 ліпеня да Мастаўлян пачалі збірацца жыхары з навакольных вёсак. Прыбываюць мастацкія калектывы і госці. Перад будынкам мясцовай школы распачынаецца агульны мітынг. З дакладам аб 15 гадавіне Польскай Народнай Рэспублііеі выступае старшыня Прэзідыума ПРН гр. Яўгень Стшалкоўскі. З гонарам пералічвае дасягненні нашай краіны за мінулыя 15 год. Затым з кароткім прывітаннем і пажаданнямі з выпадку слаўнага юбілею выступае сакратар Павятовага камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі тав. Аляксандр Камінскі. Старшыня ПРН гр. Стшалкоўскі ўручае дзеячам павета дзяржаўныя ўзнагароды. Пасля сакратар Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Віктар Швед расказаў аб жыцці і дзейнасці ўраджэнца вёскі Мастаўляны

КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА. Пры поўнай цішыні з мемарыяльнай дошкі ўмураванай у сцяну мясцовай школы пад рукой старшыні ПРН спадае пакрывала. На дошцы ў польскай і беларускай мовах: „У вёсцы Мастаўлянах 21.III.1838 г. нарадзіўся КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ змагар за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне палякаў і беларусаў, арганізатар і кіраўнік студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве. Загінуў з рук царскіх сатрапаў 10.III.1864 г. у Вільні. Ушаноўваючы памяць героя жыхары Мастаўлян прысвойваюць школе яго імя. Сакавік 1959.” Школе ў Мастаўлянах прысвойваецца імя КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА. Старшыня ПРН гр. Стшалкоўскі віншуе кіраўніка са знамянальнай падзеяй і ўручае школьнікам партрэт Кастуся Каліноўскага, з пажаданнем поспехаў у жыцці і вучобе. У адказ на словы старшыні ПРН школьнікі запэўняюць, што прысваенне школе імя КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА адзначаць яшчэ лепшымі поспехамі ў вучобе. На гэтым заканчваецца афіцыйная частка мітынга. На прышкольным пляцы пачынаецца мастацкая частка, у якой прыняў удзел Калектыў ГП БГКТ з Беластока, мастацкі калектыў пры ПДК у Міхалове, калектыў з Гарадка і іншыя. Да позных гадзін прадаўжаецца народнае гулянне. Да ўвагі ўдзельнікаў рэчавая і кніжная латарэі, буфет і іншыя мерапрыемствы. Радасна сустрэлі і весела правялі слаўны юбілей 15-годдзя нашай дзяржавы жыхары Мастаўлян і ваколіц” ((пч), „На радзіме К. Каліноўскага”, „Ніва”, nr 31, z dn. 2.08.1959 r., s. 1-2). Jerzy Wołkowycki we wspomnieniach podkreślił białoruski charakter święta 22 lipca w powiecie białostockim: „Моцным беларускім акцэнтам адзначыў Беластоцкі павет сёлетняе ліпеньскае свята. У Мастаўлянах у сцяну мясцовай школы ўмуравалі мемарыяльную дошку. (…) Павятовая рада падарыла школе і партрэт Кастуся Каліноўскага, заказаны на ўрачыстасць у Любы Красоўскай. Так выканалі мы другое рашэнне Камітэта пабудовы дома-помніка К. Каліноўскага, першае – прысваенне імя беластоцкай вуліцы – здзейснілі раней. Засталося апошняе – Дом. Тэрмін – 1964 год, а сабралі толькі 121000 зл.” (Г. Валкавыцкі, Віры..., с. 55).

**Лена Глагоўская**

*(Працяг будзе)*

*Асоба*

# Прыгадаем Пятра Першукевіча

**Культурна-грамадскі і літаратурны месячнік „Летапіс Таварыства Беларускай школы” за кастрычнік-лістапад 1933 года апублікаваў на вокладцы вялікі партрэт прыгожага юнака-студэнта матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта Пятра Першукевіча. Але гэты партрэт, на вялікі жаль, быў змешчаны ў чорнай рамцы. А пад партрэтам тэкст: Пятро Першукевіч. Памёр у Наваградку 4.XII.33.**

Моладзь Заходняй Беларусі, даведаўшыся пра смерць Пятра Першукевіча, атрымала шок. Для беларусаў смерць юнака з Наваградчыны была вялікай неспадзяванасцю і горам.

Пятро Першукевіч быў вельмі таленавітым юнаком. З тых звестак, якія ўдалося сёння сабраць, вядома, што ён нарадзіўся ў вёсцы Паплавы на Наваградчыне. Пра гэта сказаў мне дзятлаўскі краязнавец Валерый Петрыкевіч. Дарэчы, Валерый Петрыкевіч – сын Міхася Петрыкевіча, які некалі вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі. Па словах Валерыя Петрыкевіча, яго бацька памятаў Пятра Першукевіча, які, хоць і быў старэйшы за яго, але ў гімназіі ўсе юнака ведалі, бо ён вылучаўся матэматычным талентам і быў добрым спартсменам.

Вёскі Паплавы ўжо не існуе. Знаходзілася яна недалёка ад мястэчка Нягневічы. Моладзь Нягневічаў была даволі дзейснай і актыўнай пры Польшчы. Я маю на ўвазе актыўнай ва ўсіх беларускіх культурна-масавых мерапрыемствах у тыя 1920-я – 1930-я гады. У Нягневічах, дзякуючы Пятру Першукевічу і яго сябрам, была набыта вялікая хата. І гэту хату вясковая моладзь пераабсталявала пад Народны дом, дзе паказвалі беларускія спектаклі, чыталі розныя лекцыі, паказвалі канцэрты мастацкай самадзейнасці. Гэты Народны дом будзе створаны пазней – дзесьці ў пачатку 1930-х гадоў, калі Пятро Першукевіч вучыўся ў Вільні.

Першапачатковую адукацыю юнак атрымаў у Наваградскай беларускай гімназіі. Андрэй Чэмер у сваёй кнізе „Наваградская беларуская гімназія (Вільнюс, 1997) прыгадвае, што Пятро Першукевіч быў вельмі стараннным і акуратным, як большасць вучняў з-пад Нягневіч і Шчорсаў. А яшчэ, як успамінае Андрэй Чэмер, Пятро Першукевіч быў здольным матэматыкам і спартсменам.

Пасля заканчэння беларускай гімназіі ў Наваградку, хлопец адразу паступіў на матэматычны факуль-

тэт Віленскага ўніверсітэта. Там ён не толькі старанна вучыўся, а актыўна ўключыўся ў беларускі моладзевы рух. З 1920 года ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя дзейнічаў Беларускі Студэнцкі Саюз (БСС). У снежні 1932 года Пятро Першукевіч становіцца вольным сябрам ураду БСС. А ў студзені 1933 года яго абіраюць сакратаром Беларускага Студэнцкага Саюзу.

Напачатку Калядных канікулаў Беластоцкая Акруговая Управа запрасіла студэнтаў Віленскага ўніверсітэта Марыю Мілючанку (Мілюць), Пятра Чэчку і Пятра Першукевіча, а таксама студэнта Варшаўскага ўніверсітэта Мікалая Орсу на Беласточчыну дзеля таго, каб яны прачыталі беларусам цыкл навукова-папулярных лекцый. І студэнты пагадзіліся. У Беластоку да іх далучыўся і сябра ТБШ Васіль Лукашык.

Пятро Першукевіч у Беластоку прачытаў лекцыі на тэмы „Што мы павінны ведаць аб сусвеце?" і „Цуды тэхнікі", у вёсцы Тапільцы – „Людское жыццё і прырода", у вёсцы Валілы – „Аб прымяненні тэхнікі на вёсцы" і г.д. Пятро Першукевіч становіцца адзін з самых актыўных сяброў не толькі Беларускага Студэнцкага Саюзу, але і Таварыства Беларускай школы ў Заходняй Беларусі. Ён з сябрамі абыйшоў пяшком усю Беласточчыну. Выступленні вельмі падабаліся людзям, асабліва сялянам. На кожнай сустрэчы прысутнічала шмат люду. Сяляне ішлі паслухаць выступоўцаў за 10-15 кіламетраў. Яны шчыра віталі лектараў, просячы іх зноў прыязджаць, не забываць іх. Амаль пасля кожнай лекцыі, задавалі выступоўцам сотні пытанняў. А ў некаторых вёсках маладых, адукаваных беларусаў не хацелі адпускаць. „Мы ўжо іх карміць, апранаць і, як найлепей, даглядаць будзем", – казалі вяскоўцы. Паслухаць студэнтаў прыходзілі сяляне, якім было ўжо па 70 і болей гадоў.


ЛЕТАПІС
Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ
КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК
№ 5-6. Вільня, Кастрычнік – Лістапад. 1933. Год I

**Вокладка часопіса з партрэтам Пятра Першукевіча**

Старэйшыя беларусы вельмі былі здзіўлены, што хлопцы і дзяўчаты з гарадоў, дзе яны вучацца, так адкрыта і смела гутараць з імі па-беларуску. Ад такіх доўгіх гутарак, сустрэч, маладыя лектары не паспявалі часам вярнуцца ў Беласток, таму прыходзілася начаваць у вяскоўцаў. Людзі з радасцю іх прымалі дома, стараліся як найлепей сустрэць і пачаставаць іх, просячы прабачэння, калі што не так.

Акрамя лекцый і дакладаў Пятро Першукевіч, Марыя Мілючанка, Мікалай Орса і Васіль Лукашык у памяшканні ТБШ у Беластоку наладзілі вячэрнія заняткі для дарослых. Марыя Мілючанка выкладала гісторыю беларускай літаратуры, Васіль Лукашык – гісторыю і беларускую граматыку, Мікалай Орса – біялогію, анатомію і прыроду, а Пятро Першукевіч – матэматыку і фізіку. Заняткі адбываліся амаль месяц.

Не забываў Пятро Першукевіч і сваю родную Наваградчыну. Ён актыўна рыхтаваўся да мерапрыемстваў у сваім Нягневіцкім Народным доме. Найперш юнак планаваў правесці цыкл лекцый „Культура і народ" для вяскоўцаў. Але зрабіць гэта не паспеў. 4 снежня 1933 года яго не стала. Што здарылася з Пятром – пакуль застаецца загадкай. Па адной з версій – ён памёр ад сухотаў. Але ў гэта мала верыцца, бо юнак быў фізічна моцным, дагледжаным і матэрыяльна забяспечаным, бо, калі яго не стала, ён ужо вучыўся на чацвёртым курсе ўніверсітэта. Ёсць і іншая версія. Андрэй Чэмер у сваёй кнізе „Наваградская беларуская гімназія" сцвярджае, што Пятро Першукевіч памёр „без пары з-за аварыі з аўтобусам, якая пакінула сляды". Магчыма, Пятро Першукевіч аднойчы ехаў у аўтобусе і трапіў у аварыю, якая і нанесла шкоду юнаку. Што гэта была за аварыя, калі і дзе яна здарылася і ці, наогул, яна была – пакуль невядома. Але беларуская грамада і, найперш моладзь, страціла вельмі перспектыўнага і здольнага чалавека. Пра смерць Пятра Першукевіча напісалі і прыгадалі многія віленскія беларускія выданні. Той жа „Летапіс ТБШ" (1933, № 5-6) пісаў: „Усё сваё маладае жыццё ён ахвяраваў працоўнаму народу, ад якога сам паходзіў… Да самай смерці, пакуль білася сэрца, ён не сыходзіў з поля бітвы за асвету народную… Маладая галава не ўмела хіліцца перад няўдачамі. Ён даводзіў задуманае так, як гэта можа зрабіць толькі сапраўдны змагар… Зусім яшчэ мала сярод беларусаў такіх інтэлігентных сілаў, што ўсёй душой лучыліся бы з сялянствам і работніцтвам, і вось таму гэта страта для нас асабліва балючая… Пакрыўджаны і прыніжаны беларускі народ пазбаўляецца свайго маладога абаронцы, а наша старонка слаўнага сына…".

Віленскі часопіс „Шлях моладзі" (1933, № 13) таксама балюча ўспрыняў смерць Пятра Першукевіча: „…Ён многа чытаў беларускіх лекцый і ладзіў беларускія прадстаўленні. Смерць Першукевіча сумным рэхам адбілася сярод беларускага студэнцтва і старэйшага грамадзянства…".

З таго часу, калі не стала Пятра Першукевіча, прайшло больш за 82 гады. Таму сёння хоць гэтая згадка няхай будзе данінай светлай памяці забытага беларуса з Наваградчыны.

**Сяргей Чыгрын**

# *Маё жыццё пад пушчай*

***2.*** Ужо чуць было водгукі вайны. Штодзень было гучней – чуваць, што ўжо недалёка. Мы перабраліся на свой хутар. О,  там недалёка дарога тады была, мая дарога няшчасная. Але нямецкае войска ехала па той дарозе. Мы, дзеці і жанчыны, сядзелі ў выкапанай зямлянцы, там насыпалі саломы і паклалі пасцель, каб дзецям было дзе адпачыць. Мужчыны ўсе былі ў той бярэзіне, што я раней пісала. Не ведаю, чаму наша карова хадзіла каля нас. Прыйшлі немцы і забралі карову на мяса. Мама ўзяла малога на рукі і мы – я, брат і сястра,  пайшлі за мамаю. Мама прасіла немцаў, каб аддалі карову, плакала і паказвала на нас. Відаць, добры быў немец, бо аддаў карову, і мы ўсе задаволеныя вярнуліся з каровай дахаты.

На другі дзень раніцай прыляцеў рускі «кукурузнік»-разведка, выйшла з яго двух салдат, пыталіся, калі тут былі немцы, пагаварылі, распыталі і паляцелі. Мы вярнуліся на свой хутарок. Вайна ўжо нас мінула, пагналі немца далей.

Ужо жыта паспела, настала жніво, трэба было жыта жаць. Усё было развалена, дах з усіх будынкаў быў сарваны.

Жыта жалі сярпамі, машын тады не было. Тата, калі быў у няволі ў немца, навучыўся касіць жыта касою, бо рабіў у гаспадара ад цямна да цямна.  І так работы было многа, не было часу сядзець. Ужо было дзве каровы, пару авечак. Сталі патроху ўсяго нажываць. Ад рускіх салдат купілі за гарэлку і сала малую кабылку. Была яна спакойная, я на ёй ездзіла вярхом, памагала бацькам ва ўсім што магла рабіць. Зближалася восень, выкапалі бульбу.

Ужо пасля вайны адкрылі школу. Пайшлі ў яе ўсе перарослыя вучні, і я пасля капання пайшла. Брат раней пайшоў, а я толькі тады, бо работа была. Хадзіла я ў школу да вясны, пакуль пачалася ў полі работа. Вось і быў тут канец маёй вучобы, хаця я вельмі хацела вучыцца. Мама сказала, што ў вёсцы вучоба непатрэбна. Трэба ўмець усё рабіць, гатаваць яду, хлеб спячы, кароў падаіць, свіней накарміць... У полі рабіць, жаць, сена пратаць. Усё рабілася рукамі. Конны плуг, каса, серп, матыка, барана, граблі – вось і ўсе машыны. Дзяўчына павінна была ўмець абрабляць лён. Церлі лён  на яме: капалі яму, клалі жэрдкі, збіраліся жанчыны, якія лічылі, колькі трэба льну і колькі жанчын. Трэба каб была добрая пагода. Раніцаю гаспадар распальваў агонь у яме, клаў на жэрдкі лён, пакуль пазбіраюцца жанчыны, трэба каб лён быў сухі. Церлі яго ўвесь дзеь, у абед вып'юць па кілішку, пасля  падаказваюць, пасля зноў за работу. І так у кожнае па чарзе, пакуль не скончаць церці лён. Пасля пачыналі яго трапаць, але то ўжо кожная гаспадыня рабіла сама. А калі многа было льну, то нават два тыдні  трэба было махаць трачкаю аб кадлубак і барабаніць цэлы дзень. Пасля трэба было яго часаць на жалезнай шчотцы, каб ужо наканец быў чысты і надаваўся каб прасці яго на калаўротку. Да святога Міхайла канчалі часаць, канчалі прасці, і так аж да Вялікага посту стараліся жанчыны ўсё паспець. Мелі яны многа работы, хадзілі з кудзелямі, збіраліся па чарзе то ў адной, то ў другой, гаварылі больш папраўдзе чым у сябе дома. І там зачынаўся пост, зачыналі ставіць кросны і ткаць. Трэба было ўсяго – аж кашулі да мяшка – наткаць. Трэба каб было ўсё сваё. Купіць не вельмі тады было дзе. І так усю зіму работы жанчыны мелі вельмі многа. Не было калі адпачываць. Калі заставаўся няпрадзены лён, можна было яго здаць на скупцы – тады прымалі, абы быў. Цяпер нічога не трэба, ды маладыя не ўмеюць ані прасці, ані ткаць, бо цяпер не трэба: можна ўсё купіць.

Вось так я і вучылася ўсё рабіць на гаспадарцы. Сястра і брат хадзілі ў школу, а я –  калі мела час – ад іх вучылася. Чытала многа кніжак, каб толькі быў вольны час. На жаль, яго было ў мяне вельмі мала. Навучылся вышываць, вязаць шкарпэткі, швэдры, нават модныя «гарсонкі» з воўны. Так што мала было часу на ўсялякія «разрыўкі».

Ужо я стала дарастаць да дзяўчыны. Дзяўчат на нашым хутары не было. Быў адзін хлопец, але якась мы з ім не ладзілі. Мае каляжанкі былі далёка, адна жыла бліжэй мяне, так што бачыліся,  збіраліся толькі ў нядзелю і то ў дзень, калі яны прыходзілі да мяне. Тады маглі пабыць даўжэй, бо яны былі цэлай групай. А я была адна, так што вечарам баялася праз  малады лес ісці. Вось такая была мая маладосць. У той час было ўжо радыё, і гэта была адзіная мая забаўка. Любіла я, як спявалі рускія песні і хутка іх вывучала. Мела дзевятнаццаць гадоў, хацела вучыцца шыць. Трэба было вучыцца год, а гэта было задоўга. Бо прыйдзе лета, і зноў трэба будзе рабіць. Брат вучыўся ў Міхалове ў механічнай школе тры гады, а я мусіла памагаць бацькам. Даведаліся бацькі, што ў Беластоку вядуцца шасцімесячныя курсы, але трэба было плаціць за іх не ведаю колькі. І я пайшла на пяць месяцаў, бо ўжо курсы месяц ішлі. Зіму вучылася шыць – на паперы гэта называецца «kurs szycia i modelowania", а вяла гэтыя курсы кіраўнічка Стэфанія Гэнэткевіч. Так я вучылася – для мяне не было часу. Вядома, за пяць месяцаў я многа не навучылася  – пашыць сукенку, блюзку, спадніцу, жакет. Ну, што ж, відаць такі лёс.

Час ішоў. Я пазнала хлопца, які мне падабаўся. Пачаў прыходзіць ён да мяне, а праз год пачаў гаварыць пра вяселле. Бацькі не вельмі  хацелі мяне аддаць за яго, а мне ён падабаўся. На Тройцу адбылося вяселле. Тады

яшчэ да вянца ехалі коньмі. Была пагода, сонейка свяціла. Вяселле было два дні, не так як цяпер – праз ноч, і ўжо па вяселлі. На другі дзень мой муж забраў мяне да сябе, у чужую хату, дзе была бабуля, свякруха яшчэ маладая і дзве дзяўчыны, з якіх адна ўжо працавала, а другая была дома.

Было вельмі цяжка прывыкнуць. Вельмі хутка мяне заставілі гатовіць ежу. Я ж была маладая, а было пяць асоб, трэба было ўсіх накарміць, а не было вельмі што наварыць.

Вось так пачыналася маё новае жыццё. Праз год нарадзіўся сын. Гаспадарка невялікая, грошай не было, а яшчэ ў тае дзяўчыны не вельмі што было. Я мела сама адзецца і абуцца. Калі залоўка ішла кудысьці на забаву, то прасіла ў мяне штосьці апрануцца. Я давала, бо што ж мела рабіць – хацела, каб было добра і быў спакой у хаце. Пачало клеіцца ў яе вяселле. Трэба было ўкарміць парсючка. Бульбы не хапала, асыпка была. Трэба было падсвінка карміць зеллем. Мужавай сям'і ад гэтага галава не балела, хаця мужавай маці было толькі сорак гадоў, ну і бабуля не была яшчэ такая слабая. Ну і тая дзяўчына, якой шыкавалася вяселле. Было іх тры ў хаце, а я адна. Мамін сынок ці не бачыў, ці, можа, не хацеў бачыць, як усё адбываецца. Калісь, калі людзі палеткі абраблялі, было дзе нарваць зелля. Ніхто з хаты не хацеў пайсці рваць зелле, а я мусіла чымсь карміць свінак. Калісь мяшкі былі вялікія, тканыя, увахадзіў туды метар бульбы. Вось пайду я з тым мяшком, нарву зелля. Яшчэ тое зелле ўтаўку, каб больш улезла ў мех, і цягну, калі не ўзвалю на спіну. А было несці далёка. Я была слабая, дзіцё карміла грудзьмі, хаця была высокая, ды худая. Вось так я і карміла свінак.

Адправілі вяселле, як павінна быць. Пасля таго вяселля я з мужам засталіся з даўгамі. Трэба было аддаваць пазычанае. Не было вельмі з чаго, але якась памалу разлічыліся. Жыццё ішло сваім шляхам. Сынок рос. Быў ён вельмі спакойнае дзіцё. Праз зіму пачаў бегаць, гаварыць. Летам у сенакосы – на нашы сенажаці было далёка – ехалі мы на ўвесь дзень. Малога пільнавалі свякруха і бабуля, а мы з мужам былі каля сена. Час ішоў. Я спадзявалася другога дзіцяці, але на мяне ніхто не звяртаў увагі – ці мне не цяжка. Мусіла ўсё рабіць адна. Зімою нарадзіўся другі сын. Старэйшаму было два годзікі, і зноў малы. Стала яшчэ цяжэй, але ж дзеці невінаватыя. Я дзетак вельмі любіла, хаця было мне вельмі цяжка. Муж таксама быў для мяне не вельмі добры, не шанаваў мяне, не памагаў, каб мне было лягчэй. Бывала, у дзень я так натамлюся, а ў начы дзеткі не даюць спаць. У дзень, калі работа была, было каму іх пільнаваць, а ўначы радня яшчэ злавалася, чаму малы плача, спаць не дае. Старэйшы быў спакойны, а другі быў вельмі нядобры. У дзень было нармальнае дзіцё, а ўначы быццам хто што на яго наслаў. Узяла я яго да сябе спаць, хоць трохі было лягчэй. Свякруха знайшла сабе работу дзесь у агародніка ў Беластоку, сказала, што яна дзяцей гадаваць не будзе. Бабуля засталася з намі, памагала мне як магла, вось так і жылося. Калі меншаму было чатыры гады, нарадзіла я дачушку. Мужава маці кінула работу, вярнулася дамоў. Малая была спакойная, хлопцы ўжо падраслі, і было мне лягчэй. Летам колькі сілы памагала бабуля, вельмі любіла нашу маленькую. Яе ўсе любілі, была такая прыгожая. Пад восень бабуля захварэла, у капанне бульбы (яшчэ яе не дакапалі, крыху засталося) памерла. Зімою свякруха пайшла замуж за багатага, прыехаў і забраў яе. Праз зіму мая дачушка падрасла, вясною ўжо гуляла з хлопцамі. Старэйшаму было сем гадоў, малошаму пяць, а дачушцы пайшоў другі. Найгорш было ў сенакос – не было з кім пакінуць дзяцей. Муж сам ездзіў: прывязе сырое, а я расцягваю траву і сушу...

А я яшчэ жыла.

Праз лета якась перабілася. Хлопцы і дачушка, калі было цяпло, гулялі на панадворку. У мяне работы было многа. На восень старэйшы пайшоў у школу, двое было каля мяне. Муж зарабляў дзе далося, вазіў пясок на дарогу. Коні былі добрыя, а трэба было зарабіць грошы. Усё было б добра, але мне вельмі балела спіна, так што не магла хадзіць. Паехала да доктара, мяне прасветлілі. Доктар сказаў, што якісь дыск выскачыў – я не ведала што такое. Доктар загадаў зрабіць аперацыю, але год часу нельга яе рабіць. Я не згадзілася – дзеці малыя, гаспадарка, хоць невялікая, але рабіць трэба. Лекар сказаў, што трэба зрабіць пас і накіраваў мяне ў Беласток. Паехала я зрабіць прымерку і сказалі мне прыехаць праз два тыдні. Праз два тыдні паехала, падабрала сабе пас і стала мне лягчэй хадзіць, хаця было нявыгадна, бо вельмі цесна, але не так балела спіна. Год часу я насіла гэты пас, пакуль не парвала ў капанне бульбы, калі капала на каленях. Дачушцы ішоў чацвёрты годзік. Абодва хлопцы хадзілі ў школу.

Час ляцеў. Ужо было добра. Дзеткі падраслі. Калі хлопцы былі ў школе, я ехала на ровары з малою памагаць мужу накідаць пясок на фуру, каб больш вывез, бо праца была не на днёўку, а ад таго колькі вывезе. Падыходзіў сенакос, а я зноў адчувала сябе кепска, учапілася хвароба. Мужава сястра прыехала з Беластока і кажа: «Я завязу цябе да ўрача па жаночых хваробах». Я паехала. Завяла мяне да доктара, абследаваў мяне, прапісаў лекі і сказаў мне, што маю рабіць. Ездзіла я да яго з пяць раз, і ён мяне вылечыў. І зноў жыццё пакацілася сваім шляхам. Прыйшла восень, хлопцы пайшлі ў школу, муж вазіў пясок на дарогу. У той час рабілі дарогі, спачатку навозілі пясок, а пасля жвір. А я то кароў, то свінак упраўлю, усё капала бульбу. Восень была вельмі цёплая і сухая, было добра, мая малая была са мною на полі, гуляла. Раскіну якуюсь плахту, дам цацак, малая пагуляе і засне, а я капаю. І так час ішоў – дзеці, работа. Было ў нас чатыры каровы, двое коней, свінкі,

куркі, індыкі. Трэба было ўсё дагледзець. Дзяцей трое. Мыццё рукамі, нават парашку добрага не было, часам прыходзілася рабіць свой з попелу, называлі гэта лугам. Якась усё рабілася раз горш, раз лепш – здавалася, будзе добра. Але ж так няма як мы хочам. Я зноў пачала хварэць. Доктар сказаў, што маю язву ў страўніку і накіраваў у бальніцу. Але ж як паедзеш – дзеці, муж не ўмеў даіць кароў ані накарміць свіней, дзецям есці наварыць. Столькі работы! Яшчэ год я так мучылася. Муж пачаў вучыцца даіць кароў, дзеткі ўжо былі большыя. Я трапіла ў бальніцу, была там два тыдні. Прыняла серыю ўколаў і таблеткі, і мне стала лепш. Вярнулася дахаты, ледзь дайшла да толку. Усюды было брудна, кругом балаган, але ўжо гэта не бяда, рукі ўсё зробяць.

І зноў усё пайшло сваім шляхам. Летам сенакосы. Сенажаці далёка, і многа яшчэ уручную – машын мы не мелі, а сена трэба многа – было што карміць.

Я не ўмела сядзець ані хадзіць кудысьці на плёткі. Як мела трохі вольнага часу, магла штось пашыць ці сабе, ці каму. Вольнага часу не было.

Нашай дачушцы пайшоў сёмы годзік, а я зноў была цяжарная. На восень трэба перабудаваць печы. Зрабілі мы парадак у хаце, вядома, як выглядае пасля такой бруднай работы.

Муж пайшоў на працу ў цагельню, патрэбныя былі рабочыя. Мне работы прыбавілася. Уставала я ў чатыры раніцы, выпраўляла мужа на работу, гатовіла, каб было што з'есці і канапкі ўзяць у школу. Ішла карміць кароў, кабылку, даіць кароў, будзіла хлопцаў каб паелі, сама везла малако ў малачарню, пакуль хлопцы былі яшчэ ў хаце...

Час ляцеў хутка. Зბліжалася свята Каляд. Мужава маці, а мая свякруха штосьці не ладзіла са сваім партнёрам і вярнулася да нас. Троху мне памагала. Набліжаўся час родаў. Я адчувала сябе вельмі кепска. Муж вызваў скорую. Мяне забралі і завезлі ў бальніцу. Прыйшоў доктар, абследаваў мяне і пытаецца, ці я была ў лекара. Я кажу, што не, пытае мяне чаму. Далёка, кажу. Пачаў на мяне крычаць і пытаецца, ці мне на могільнік блізка. Кажу, што блізка. Доктар сказаў, што ў мяне будзе двое. Думаю: што я цяпер зраблю, як я з усім гэтым дам рады? Забрала мяне скорая ў нядзелю, а ў сераду рана нарадзіліся мае блізняткі: сынок і дачушка. Два тыдні пабыла я ў бальніцы і вярнулася з дзеткамі дахаты. Дзеткі былі слабенькія. Пагаварылі мы з мужам, каб прыйшлі жанчыны ў адведкі, возьмем кумоў ахрысцім, хай жывуць з Богам. Свякруха паехала да дачкі ў Беласток, мне трэба спячы хлеб. Вечарам расчыніла, рана муж даў есці каровам і кабылцы – была ўжо з жараб'ём, і паехаў на працу. Я падаіла кароў і выправіла хлопцаў у школу. Пакупала і накарміла малых. Трэба пячы хлеб. Замясіла, паглядзела – мала дроў. Пайшла я па дровы. Не падумала, што мне нельга падымаць многа. Набрала я дроў больш, каб не хадзіць па іх больш. І нарабіла сабе бяды. Пайшла кроў. Толькі хлеб усадзіла ў печ зноў мае малыя адазваліся. Не мела я часу глядзець на сябе. А ўжо і абед збліжаўся, трэба жывёлу пайсці карміць, павалу пайшла і дала есці. Прыйшла дахаты, трэба пялюшкі памыць, малых аж двое... А я не маю сілы. Мая дачушка – яна кончыла сем годзікаў – глядзіць на мяне і кажа: мама, ты хворая.

Прыйшла нядзеля, прыехалі мае бацькі, брат з брацíхай, пачалі мне памагаць, а свякруха ў Беластоку злавалася, нашто мне гэтыя дзеці. Ахрысцілі малых, паразыходзіліся, мае бацькі памаглі папратаць і паехалі, а я – такая слабая, што чуць хаджу. Так мучылася яшчэ тыдзень, і скорая з дзецьмі забрала мяне ў бальніцу. Зрабілі што трэба, далі кроў. Я была такая слабая, што калі быў лячэбны абыход, лекар пытаўся, ці я жывая. Была я доўга ў бальніцы, падлячылі мяне, і я вярнулася дахаты.

*(Працяг будзе)*

**Вера Радзіванюк, Міхнаўка**

# *Успаміны з 1998 г.*

***1.* Польшча.** У першай палове 1998 г. ад 31 кастрычніка 1997 года, пасля прам'ер-міністра У. Цімашэвіча, прэм'ер-міністрам быў Ежы Бузэк з Акцыі Выбарчай „Салідарнасць". Пры ім яшчэ ў першай палове 1998 г. паменшылася беспрацоўе ў Польшчы з 10,8% у студзені 1998 г. да 9,6% у чэрвені 1998 г. і паменшылася інфляцыя з 14,9% у 1997 г. да 11,8% у канцы 1998 г. Сярэдні заробак да снежня 1998 г. узрос з 1061 зл. да 1239 злотых, што ў пералічэнню на валюту ЗША было 355 долараў. Аднак прырост натуральны насельніцтва паменшыўся з 0,9 праміля ў 1997 г. да 0,5 праміля ў 1998 г.

**1 студзеня** атрымалі гарадскія правы масцовасці: Пётркаў-Куяўскі, Ценжкавіцэ, Мілакова, Міламлын і Радзёнкуў.

**3 студзеня** выбралі апошнюю тону вугля з шахты КВК „Сасновец".

**10 студзеня** ў Слупску ў суботу а гадзіне 19,45 Пшэмыслаў Чая ішоў з тлумам балельшчыкаў з баскетбольнага матча, а побач тлуму ехала паліцыйная машына. У нейкі момант на чырвоным сігнале на вуліцы група балельшчыкаў не затрымалася, а перабегла на другі бок вуліцы. Тады з паліцыйнай машыны выйшаў паліцыянт Дарыюш Возняк і пабег за перабегшымі

балельшчыкамі. Ён дабег да П. Чаі і ўдарыў яго паліцыйнай палкай па галаве так, што ён хутка памёр. Балельшыкі прасілі паліцыянтаў вызваць хуткую дапамогу ды тыя не згадзіліся і ад'ехалі. Тады ў Слупску некалькі начэй ішла барацьба між балельшчыкамі і паліцыяй. Балельшчыкі кідалі ў паліцыянтаў бутэлькі і камяні, знішчылі ім 22 машыны. Паліцыя не прызнавалася да забойства, аб'явіла, што П.Чая забіўся сам, бо ўдарыўся галавой аб слуп. Новы ваявода Слупска стварыў следчую групу, якая даказала віну паліцыянта ў забойстве П.Чаі. Пасля паліцыянт быў асуджаны на 8 год зняволення.

**20 студзеня** прэзідэнт А. Кваснеўскі стварыў першую Раду Народнай Бяспекі.

**30 студзеня** паднялі сцяг на навукова-даследчым караблі Марской Акадэміі ў Шчэціне MS Nawigator XXI.

**13 -тага** была закончана ў ФСЦ прадукцыя грузавіка ФСЦ Жук.

**15 лютага** ў катастрофе самалёта Мі-2 на возеры Снярдвы згінула 7 асоб.

**21 лютага** ў Познані прайшла сустрэча кіраўнікоў дзяржаў Веймарскага Трохкутніка.

**23 лютага** наступіла ратыфікацыя Канкардату між Польшчай і Ватыканам.

**24 лютага** ў шахце ,,КВК Ніўка-Маджэюў" ў Сасноўцу згінула 6 шахтных ратаўнікоў, якія без дазволу ўвайшлі ў шахту.

**20 сакавіка** на пажыццёвае зняволенне засудзіў суд двух мужчын і жанчыну за забойства 22-гадовай Ёлянты Бжазоўскай ў студзені 1996 г.

**7 красавіка** ва вёсцы Сады ля Познаня паўстала новая фабрыка аўтобусаў МАН.

**У красавіку** я выкупіў 4 месцы на два тыдні ў двух пакоях ў доме адпачынку на ліпень у Крыніцы-Марской ля Балтыйскага мора.

**25 красавіка** ўступіў у сілу Канкардат між Польшчай а Ватыканам.

**26 мая** ў Варшаве пачала працаваць станцыя метро ,,Цэнтрум". Даўжыня лігіі меро павялічылася да 12 км.

**25 чэрвеня** вечарам забілі ў Варшаве каля яго кватэры ген. Каменданта Паліцыі Марка Папалу. Да сённяшняга дня не знайшлі яго забойцу.

## Беларусь

Фінансавы крызіс, які пачаўся ў Расіі ад сакавіка, ударыў у гаспадарку Беларусі. Гаспадарка Беларусі адчула яго ў другой палове 1998 года. Нават не вельмі верагодная статыстыка Беларусі падае абніжэнне ВУП з 8,4% у 1998 годзе да 3,4% у 1999 годзе. Найбольш адчулі яго банкі – выплыла многа замежнай валюты з дзяржавы і павялічылася інфляцыя ў дзяржаве. Напрыклад, курс беларускага рубля ў студзені 1998 рода з 30 тысяч беларускіх рублёў вырас у студзені 1999 года да 220 тысяч рублёў за адзін долар. А ў студзені 2000 года адзін долар ЗША каштаваў ужо амаль адзін мільён беларускіх рублёў. Нават у Расіі не было такой інфляцыі. Сярэдняя месячная інфляцыя ў цэнах на тавары ў Беларусі ў 1998 г. згодна з беларускай статыстыкай была на пачатку 1998 г. 9,3% , а пад канец года была 7,2 разоў вышэйшая. Тады А. Лукашэнка ўвеў змены. Валютныя аперацыі былі затрыманы. Згоду на інвестыцыйную куплю і на куплю сыравіны за мяжой выдаваліся пад уважным вокам прэзідэнцкіх чыноўнікаў. Пачаўся ручны спосаб кіравання гаспадаркай і банкамі. У 1998 годзе Нацыянальны Банк быў фактычна падпарадкаваны Савету Міністраў, а старшынёю яго быў Пётр Пракаповіч.

Заработная плата ад 1997 года павысілася на 94,4%, у прамысловасці вырасла на 108,1%, на транспарце да 103,4 % , а ў калгасах толькі на 67,1%. Намінальная зарплата ў пералічэнню на долары паменшылася ва ўсіх сектарах у 1998 годзе ў параўнанні да 1997 года. Згодна з беларускімі данымі, сярэдні заробак у студзені 1998 года налічваў 302421, а ў чэрвені 1998 г. налічваў 417679 беларускіх рублёў. А апроч таго Беларусь мела даўгі ў ,,Газпрома" ў Расіі за газ. Калі ў снежні 1997 г. Беларусь мела доўг 167 мільёнаў долараў, то да канца студзеня 1998 г. доўг дайшоў да 247 мільёнаў. У палове сакавіка 1998 г. Газпром" паменшыў пастаўкі газу на 30%, паведаміў аб гэтым афіцыйна Беларусь.

Да 1998 года рэзідэнцыя прэзідэннта А Лукашэнкі знаходзілася некалькі крокаў ад Плошчы Перамогі, на Вайсковым завулку. Тут яму не спадабалася. Спадабаліся яму Дразды, на ўскрайку Мінска, названыя ў гонар аднайменнага вадасховішча. А там жылі замежныя паслы. І першым вельмі гучным скандалам, які здарыўся вясной 1998 года, было высяленне замежных паслоў з іх рэзідэнцый у Драздах. У красавіку беларускія ўлады назначылі тэрмін, калі яны маюць пакінуць свае рэзідэнцыі. Далі ім тэрмін да паловы ліпеня. Падалі фармальную прычыну – рамонт каналізацыі. Усе паслы былі забраныя ў свае дзяржавы на кансультацыі. 8 чэрвеня пасол ЗША Даніэль Спекхард расказаў на прэс-канферэнцыі аб сітуацыі ў Драздах. Тады 10 чэрвеня А.Лукашэнка прадоўжыў яму на 10 дзён тэрмін высялення з Драздоў.

У Драздах А Лукашэнка стварыў сабе адну з вялікіх рэзідэнцый улады пасярод лесу, наглуха закрытую ад выпадковых наведнікаў і непадалёку комплексу з некалькіх дзесяткаў катэджаў, у якіх пасяліліся міністры. Гэта комплекс з больш чым паўсотні разнастайных будынкаў. Самая галоўная рэзідэнцыя – гэта дом больш чым 2000 кв. м. для А. Лукашэнкі. Для афіцыйных прыёмаў прыгатоўлены два будынкі па 850 кв. м. Там пабудаваны Спорткомплекс (1000 кв. м) і басейн (750 кв. м) і там знаходзяцца дзве лазні. У рэзідэнцыі ёсць асобны рэстаран, бар і буфет і крама. Для аховы здароўя прэ-

зідэнта збудавалі станцыю абезжалезвання вады. Для афіцыяльных прыёмаў прыгатоўленыя два будынкі па 850 кв. м. Аднак не кожнага замежнага госця А. Лукашэнка запрашае ў Дразды. Для іх ёсць іншыя, не такія прэстыжныя рэзідэнцыі. Для запрошаных ёсць спецыяльны дом для прыезжых, утрая меньшы за галоўны будынак. Знаходзіцца на тэрыторыі Драздооў больш за 30 катэджаў па выселеных замежных паслах. Гэта не тыя катэджы, якія належаць наменклатурнай эліце. Чыноўнікі жывуць за плотам некалькі кіламетраў ад рээзідэнцыі прэзідэнта.

**11 сакавіка** ў Гомелі наступіла першая сустрэча кіраўнікоў пагранічных ведамстваў Беларусіі, Расіі і Украіны.

**26 чэрвеня** запрасілі прэзідэнта А.Лукашэнку на эканамічны форум у Кран-Мантана ў Швейцарыю. Там у сваёй прамове не на эканамічную тэму пачаў ён гаварыць аб супярэчнасцях між Старым Светам а ЗША. Прамова была скандальная, бо ў ёй ён заявіў, што ў еўрапейскія структуры прымаюць дзяржавы, у якіх з гармат расстрэльваюць парламент, а ў Беларусі ніхто ў парламент не страляў. Хіба ён гаварыў аб Расіі. Яго прамова вызвала незадавальненне дэлегатаў і кіраўніка, які зрабіў яму заўвагу. Тады А.Лукашэнка пакінуў залу і форум. У Беларусі не стралялі да парламента, толькі яго сілай разагналі.

У 1998 годзе пачалі на Беларусі арыштоўваць і караць зняволеннем за крытыку і насмешку над прэзідэнтам А.Лукашэнкам. **11 лютага** арыштавалі Андрэя Клімава, а пасля судзілі Вадзіма Любковіча і Аляксея Шыдлоўскага за нарысаване ў Стоўбцах антыпрэзідэнцкага графіці, хаця яшчэ не быў прыняты Палатай прадстаўнікоў закон звязаны з абражаннем годнасці і гонару прэзідэнта Беларусі. Закон гэты прынялі толькі 5 чэрвеня. З гэта часу за абразу прэзідэнта мелі караць зняволеннем да 5 гадоў. І калі Лабковіч і і Шыдлоўскі атрымалі толькі паўтара года зняволення за графіці, то Андрэй Клімаў, дэпутат Вярхоўнага Савета XIII скліканння, які не захацеў увайсці ў створаную А. Лукашэнкам Палату прадстаўнікоў, быў арыштаваны тройчы. Першы раз арыштавалі яго 11 лютага і абвінавацілі па двух крымінальных артыкулах. Аб іншых яго арыштах напішу потым. У 1998 годзе пачалося праследаванне кіраўнікоў розных палітычных партый, якія былі ў апазіцыі да прэзідэнта А.Лукашэнкі. Да адміністратыўнай адказнасці прыцягнулі старшыню Аб'яднанай грамадзянскай партыі дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га склікання С.Багдановіча, намесніка старшыні АГП, таксама дэпутата ВС 13-га склікання А.Дабравольскага і лідэраў АГП дэпутатаў ВС 13 склікання А.Лябедзьку і Л. Гразнова, выконваючага абавязкі старшыні Беларускага Народнага Фронту Л. Баршчэўскага, намеснікаў старшыні БНФ „Адраджэнне" В. Вячорку і Ю. Хадыку, сакратароў БНФ „Адраджэнне" А.Бяляцкага, В.Сіўчыка і А. Чахольскага, старшыню Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі „Народнай Грамады" М. Статкевіча, і аднаго кіраўніка гэтай партыі дэпутата ВС 13-га склікання П. Знаўца.

## Расія

**1 студзеня** прайшла дэнамінацыя рубля, пачаўся абмен старых купюр на новыя. Старыя купюры, якія абясцэніліся ад інфляцыі абменьваліся 1000:1. Згінулі купюры мільённыя, паявілася капейка.

**1 студзеня** на станцыі метро „Трэцьякоўская" ў Маскве наступіў выбух, які параніў 3 асобы.

**26-27 студзеня** ў Брусэлі прайшло першае спатканне міністраў замежных спраў Савета супрацоўніцтва ЕС з Расіяй.

**27 студзеня** ноччу ля вёскі Хрэновае ў Варонежскай вобласці наступіла катастрофа цягніка з Украіны ў Пензу. Выйшла з рэек 19 вагоноў. Ахвяр не было.

**29 студзеня** наступіў старт касмічнага карабля Саюза ТМ-27 з касманаўтамі Талгатам Мусабаевым, Мікалаем Бударыным і французскім касманаўтам Леапольдам Эйартцам. Прыстыкаваліся яны да касмічнай станцыі „Мір".

**30 студзеня** ў Вашынгтоне прадстаўнікі ЗША, Расіі, Японіі, Канады, Бельгіі, Даніі, Францыі, Германіі, Італіі, Галандыі, Нарвегіі, Іспаніі, Швецыі, і Вялікабрытаніі падпісалі міждзяржаўную згоду на супрацоўніцтва пры будове і эксплуатацыі міждзяржаўнай касмічнай станцыі „Альфа".

**2 лютага** на Шылаўскім палігоне ля Новасібірска згінула 4 салдаты пад танкам, а 4 было параненых.

**11 лютага** ў Маскве ў пажары будынку Росморфлота пацярпела 41 асоба

**14 лютага** ад выбуху бомбы ў Саратаве згінула 3 асобы.

**19 лютага** прызямліўся касмічны карабель Саюз ТМ-26 з касманаўтамі Анатоліем Салаўёвым, Паўлам Вінаградавым і французскім касманаўтам Леапольдам Эйартцам.

**Ад 26 лютага да 1сакавіка** ў Маскве быў з візітам прэзідэнт Украіны Л. Кучма. Падпісаны быў дагавор з Расіяй аб эканамічным супрацоўніцтве між дзяржавамі і Праграма гэтага супрацоўніцтва.

**16 сакавіка** Пастаянны прадстаўнік Расіі пачаў працаваць у НАТА.

**23 сакавіка** адстаўка прэм'ер-міністра Віктара Чарнамырдзіна, які кіраваў урадам ад снежня 1992 г.. Б. Ельцын адправіў яго ў адстаўку ў сувязі з бюджэтным крызісам, калі ўрад кожны месяц плаціў 1,5-2 разоў больш грошай чым сабраў з падаткаў. Ужо некалькі месячэў не плацілі многім зарплату, пачаліся акцыі пратэстаў з жаданнем адстаўкі ўрада. На месца В. Чэрнамырдзіна ўвайшоў малодшы Сяргей Кірыенка, які меў 35 год. 10 красакавіка Дума адкінула С. Кірыенку,

тады Б. Ельцын паставіў яго другі раз. 17 красавіка Дума адкінула яго другі раз, тады прэзідэнт паставіў яго трэці раз. Калі б Дума адкінула б яго трэці раз, то згодна з Канстытуцыяй прэзідэнт распусціў бы Думу. І 24 красавіка Дума згадзілася, каб прэм'ер- міністрам быў С. Кірыенка.

**26 сакавіка** наступіла сустрэча ў Маскве прэзідэнта Барыса Ельцына з канцлерам Нямеччыны Гельмутам Колем і прэзідэнтам Францыі Жакам Шыракам. Дагаварыліся яны аб інтэграцыі Расіі ў Еўропу.

**30 сакавіка** Расія ратыфікавала Еўрапейскую Канвенцыю аб абароне чалавека і аснаўных свабодах. Уступіла яна ў сілу 5 мая.

**12 мая** Б. Ельцын першы раз выступіў у Інтэрнэце і адказаў на 14 пытанняў.

**14 мая** шахцёры Анджэра-Суджэнска блакавалі рух на Транссібу, пратэстуючы супраць невыплачвання праз 5 месяцаў ім зарплаты. За імі селі на рэйкі шахцёры ў іншых рэгіёнах Расіі і жадалі адстаўкі ўрада і прэзідэнта. Дзяржава заплаціліла шахцёрам грашамі з міжнароднай пазыкі.

**15-17 мая** ў Бірміргеме прайшла сустрэча,,вялікай васьмёркі". Расія першы раз была на ўсіх пасяджэннях, як поўнапраўны ўдзельнік.

**11 чэрвеня** прыехала ў Маскву 250 шахцёраў, стварылі палатачны лагер на Гарбатым мосце ля Белага дома і аб'явілі, што будуць там да часу, калі Б.Ельцын не пойдзе ў адстаўку. Лагер стаў месцам для апазіцыі. 19 чэрвеня шахцёры ўвайшлі да будынку Думы і зрабілі там пікет з гукамі шахцёрскіх касак. Дума стварыла камісіі, якія мелі разглядзець пратэсты шахцёраў.

**З 20 на 21 чэрвеня** ад урагана ў Маскве і ў Маскоўскай вобласці згінула ад 8 да 11 асоб. Амаль 200 асоб было параненых.

**30 чэрвеня** ў Омску ў жылым доме ад выбуху газу згінула 5 асоб, было разбурана 8 кватэр.

## Іншыя дзяржавы

**4 студзеня** прайшоў моцны ўраган над Вялікабрытаніяй, паўночнай Францыяй і Нямеччынай.

**4 студзеня** ў чыгуначнай катастрофе ў Таджыкістане згінула 13 асоб, а 20 асоб было параненых.

**11 студзеня** ў Алжыры ісламісты напалі на вёску Сіды і забілі там 103 жыхароў вёскі.

**13 студзеня** ў катастрофе самалёта АН-12 ВП ў Афганістане згінула 51 асоба.

**15 студзеня** Харвацыя заняла ўсходнюю Славонію.

**22 студзеня** ў ЗША наступіў 89 старт (STS-89) па праграме Спейс Шатл і 12 палёт шатла Індэвора з касманаўтамі Тэрэнсам Уілкатам, Джо Эдвардсам, Джэймсам Райлім, Майклам Андэрсонам, Боні Данбарай, расійскім касманаўтам Саліджанам Шарыпавым і Эндру Томасам. Наступіла восьмая стыкоўка з расійскай касмічнай станцыяй ,,Мір". Пакінулі на касмічнай станцыі ,,Мір"Эндру Томаса і забралі з яе Дэйвіда Вулфа. Прызямліліся 31 студзеня.

**25 студзеня** ад тэракта тамільскіх паўстанцаў у Шры-Ланцы згінула 16 асоб.

**2 лютага** ў катастрофе самалёта Дугласа ДЦ-9 на Філіпінах згінулі 104 асобы.

**3 лютага** амерыканскі самалёт перарэзаў у Італьянскіх Даламітах ў Кавалезе сталёвы трос фунікулера. Кабіна з фунікулера ўпала ў прорву і ўсе 20 пасажыраў згінулі.

**4 лютага** ад землятрусу між Афганістанам і Таджыкістанам згінула 3 тысячы людзей. Землятрус разбурыў амаль 2 тысячы дамоў.

**7 лютага** ад землятрусу ў Афганістане згінула больш чым 4500 асоб.

**З 7 да 22 лютага** прайшлі ў Японіі ў Нагана XVIII зімовыя алімпійскія гульні. Першае месца заняла Нямеччына (12 залатых, 9 срэбных і 8 бронзавых медалёў), другое месца заняла Нарвегія (10 залатых, 10 срэбных і 5 бронзавых медалёў) і трэцяе месца заняла Расія (9 залатых, 6 срэбных і 3 бронзавых медалёў).

**14 лютага** ў Яундэ ў сталіцы Камеруна згінула больш чым 120 асоб ад выбуху 2 бензамашын.

**24 сакавіка** ў ЗША ў штаце Арканзас у Джонсборо двух падлеткаў забілі пры дапамозе зброі чатырох вучняў і настаўніка.

**29 сакавіка** на выбарах на Украіне ў Вярхоўную Раду большасць галасоў атрымалі камуністы.

**2 красавіка** наступіў выбух бомбы ў Латвіі ў Рыжскай сінагозе.

**4 красавіка** ў шахце на Украіне ў раёне горада Данецка згінулі 63 шахцёры.

**6 красавіка** ў Рызе недалёка ад расійскага пасольства наступіў выбух супрацьтанкавай міны. Ахвяр не было.

**9 красавіка** ў Мецы згінула 107 ісламскіх паломнікаў.

**17 красавіка** ў ЗША наступіў 90 старт (STS-90) па праграме Спейс Шатл і 25 палёт шатла Калумбія з касманаўтамі Рычардам Сірфосам, Скотам Олтманам, Рычардам Лінеханам, Катрынай Хайрай, з касманаўтам з Канады Давідам Уільямсам, Джэем Баклім і Джэймсам Павельчыкам. Калумбія прызямлілася 3 мая

**Ад 18 да19 красавіка** ў Сант'яга-дэ-Чылі прайшоў другі саміт амерыканскіх дзяржаў, у якім прынялі ўдзел усе дзяржавы амерыканскага кантыненту за выключэннем Кубы.

**20 красавіка** ў катастрофе самалёта Боінга Б-727-230 ля Баготы-Эльдарада ў Калумбіі згінула 53 асобы.

**24 красавіка** ў Руандзе пакаралі смерцю 22 асобы за забойства тутсі ў 1994 годзе.

**5 мая** ў катастрофе самалёта Боінга Б-737-282 у Перу ў Андоясе згінула 74 асобы.

**11 мая** ад выбуху метана ў шахце ,,Петроўская" ў

Данецку на Украіне згінула 5 шахцёраў, а 4 было параненых.

**13 мая** Індыя правяла ядзерны выбух і стала шостай ядзернай дзяржавай.

**18 мая** тысячы студэнтаў у Інданезіі захапілі будынак парламента ў Джакарце і змусілі рэжым Сухарта да адстаўкі.

**20-26 мая** прайшла другая шасцідзённая грузіна-абхазская вайна ў Гальскім раёне Абхазіі, дзе раней жылі грузіны. Яны спачатку пакінулі Абхазію падчас вайны ў 1992-1993 годзе, а пасля вярнуліся і стварылі атрады самаабароны, якія пачалі нападаць на абхазскія ўстановы. 20 мая абхазскія атрады пры падтрымцы танкаў і артылерыі ўвайшлі ў Гальскі раён і да 26 мая атрымалі кантроль над ім. Згінула больш чым 600 асоб.

**21 мая** прэзідэнт Інданезіі Сухарта пайшоў у адстаўку пасля 33 год кіравання дзяржавай.

**28 мая** за Індыяй Пакістан правёў ядзерны выбух і стаў сёмай ядзернай дзяржавай.

**2 чэрвеня** у ЗША прайшоў 91 старт (STS-91) па праграме Спейс Шатл і 24 палёт шатла Дыскаверы з касманаўтамі Чарлзам Прэкортам, Дамінікай Горы, Франклінам Чанг-Дыазам, Уэндай Лоўрэнсай, Джанетай Кавандай, рускім касманаўтам Валерыем Румінproblem. Прайшла дзевятая і астатняя стыкоўка з расійскай касмічнай станцыяй „Мір”. Дыскаверы забраў са станцыі „Мір” касманаўта Эндру Томаса і прызямліўся 12 чэрвеня.

**3 чэрвеня** ў Нямеччыне была другая вельмі цяжкая чыгуначная катастрофа.

**Ад 4 да 5 чэрвеня** ў Ялце на 4-ай сесіі Чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў 11 прычарнаморскіх краін падпісалі Устаў Арганізацыі Чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва.

**8 чэрвеня** ўвайшла ў эксплуатацыю славацкая Махоўская Атамная Электрастанцыя.

**9 чэрвеня** ад урагана ля заходняга марскога берага Індыі згінула 1040 людзей.

**19-20 чэрвеня** ў выбарах у Чэхіі перамагла Чэшская сацыял-дэмакратычная партыя і прэм’ер-міністрам ад гэтай партыі стаў Мілаш Земан.

**27 чэрвеня** ад землятрусу ў паўднёва-ўсходняй Турцыі згінула 144 асобы.

**Дзмітры Шатыловіч**

*Працяг будзе*



# *Рэцэнзіі, прэзентацыі*

## Вяртанне Блюдніка ў будучыню

– Можна быць найлепшым паэтам сярод мастакоў, альбо найлепшым мастаком сярод паэтаў, а яшчэ можна быць Блюднікам, ці блУднікам які вяртаецца, хоць і ніколі, нікуды не сыходзіў, – казаў пра Уладзіміра Блюдніка з Беларусі і Познані пісьменнік з Познані і ўсяго свету Віталь Воранаў. На сустрэчы ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы, куды гэтых мастакоў слова запрасілі на выставу з цыкла „Слоўнік беларускіх мастакоў” у студзені 2016 года. І дадаў, пакуль зайграў на дудах, каб дадаць яшчэ большага бляску ўрачыстасці:

– Мы жывем у такі час, калі межы па сутнасці застаюцца адно на палітычных мапах і ў галовах людзей, якія спазніліся на цягнік у сучаснасць. Глабалізацыя гэта факт, так як тое, што сёння я напішу тэкст у Празе, заўтра яго надрукуюць у Познані, а паслязаўтра прачытаюць у Мінску і ў Маларыце, а праз яшчэ нейкі час гэта нікога не здзівіць... Знікаюць межы, знікаюць краіны і народы, і як ні дзіўна, застаецца толькі тое, што паспявае віртуалізавацца. Можна было б па старой завядзёнцы паплакаць пра беспрытульны лёс беларуса, а можна прыняць яго як дадзенае часу, які нам

пашэнціла адмераць сваім жыццём. Сёння беларускім мастаком можна заставацца і ў Гародні, і на Марсе... І тое, чым ёсць вяртанне мастака Блюдніка на Радзіму, гэта не столькі вяртанне, колькі спроба пасадзіць бульбу ў калісьці ўзаранай баразне. Зусім неістотна, што яго ведаюць больш там, дзе ён жыве, а не там, дзе нарадзіўся, бо беларускім мастаком ён не рабіўся ды не пераставаў быць ніколі. Беларускасць гэта не элемент ягонага мастацтва. Беларускасць ёсць ягоным мастацтвам.

Блуднік? Той, што блукае? Не, Блюднік – той што блюдзе тое, што ўжо знайшоў і сцеражэ тое, што здабыў, пільнуе тае каштоўнасці-дасягнення, – так мяркуецца мне.

І вершы, і проза ў ягонай кнізе «Вяртанне» (2008 г.), як і малюнкі-графікі. «Зіма была лютая. Усю ваколіцу засыпала сухім, рыпучым ад марозу белым снегам. Па начох у трубах, навяваючы нуду і не даючы заснуць выў вецер. Затое ў дзень радавала сонца, якое залаціста-белым святлом залівала вёску». Зусім як у нас, пад Гайнаўкай, куды прыехаў Уладзя Блюднік са сваімі творамі з Беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Познані, якому старшынюе Віталь Воранаў. А карціны ўжо вядомыя – пазнаёміцца можна было раней на Беласточчыне з беларускімі календарамі, выдадзенымі БКАЦ, на якіх змяшчаліся рэпрадукцыі жывапісу і графікі У. Блюдніка. Уладзімір Блюднік нарадзіўся 1 верасня 1975 г. у Дзятлаве Гарадзенскай вобласці. У 1993-1998 г. вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Познані, у 1998 г. атрымаў дыплом па літагравюры ў прафесара Люцыяна Мяноўскага; займаецца рысункам, жывапісам і графікай. Ягоныя працы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Беларусі, у Польшчы Канадзе, ЗША, Нямеччыне, Іспаніі, Галандыі і Венесуэле.

– Яго выстава ў Гайнаўцы, пачатая 30 снежня 2015 года – апошняя леташняя ў рамках „Беларускага слоўніка мастакоў”, – кажа дырэктар Беларускага музея ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк. – На Падляшша ён трапіў упершыню. Адначасова з'явіўся каталог пра асобу і творчасць Уладзіміра Блюдніка.

– Калі выстава адбываецца ў Беларускім музеі ў рэгіёне Польшчы, дзе жыве найбольш беларусаў, то я з гэтай нагоды рашыў знайсці ў сваёй творчасці працы, якія найбольш аддаюць беларускую тэматыку. Я сабраў графікі, жывапіс, большасць графік з 1998 года, па сённяшні дзень. І выбраў работы, якія найбольш характэрныя для маёй найбольш беларускай серыі «Вяртанне». Мне здаецца, што гэтая тэматыка для людзей, якія тут жывуць, па свайму ўставу, будзе больш зразумелая, чым для людзей з Варшавы ці Познані.


Фота Міры Лукшы

**Адна з прэзентаваных на выставе працаў Уладзіміра Блюдніка**


Фота Міры Лукшы

**Уладзімір Блюднік (злева) з дырэктарам Гайнаўскага беларускага музея Тамашом Ціханюком і адным з наведвальнікаў вернісажа**

Віталь Воранаў:

– Гэта наш мастак, таленавіты мастак, і адчуваецца нейкую метафізічную адсутнасць яго тут на Падляшшы і ў Беларусі, таму што Уладзя Блюднік паходзіць з Гарадзеншчыны, з беларуска-літоўскага памежжа. Ён даволі вядомы ў такіх краінах як Галандыя, Бельгія, Нямеччына, ягоныя карціны знаходзяцца ў розных галерэях, у прыватных зборах, вось а на Падляшшы і ў Беларусі ведаюць пра яго вельмі мала або нічога. Нейкі час таму, але гэта было вельмі даўно, яшчэ ў час студэнцтва, было ў яго некалькі выставак у Гародні. Але з таго часу – нічога ў гэтым плане не адбывалася. Таму я спадзяюся, што выстава ў Музеі ў Гайнаўцы – гэта першы крок па вяртанні Уладзіміра Блюдніка ў беларускую культуру. Не варта губляць нашых мастакоў, варта такімі таленавітымі мастакамі ганарыцца.

– Я шукаў заўсёды сувязь паміж мінулым і сучасным, і там шукаў сувязі паміж старой графікай XIX і XVIII стагоддзяў, гравюрамі па

дрэве, і сучаснасцю. І здаецца мне, што ў некаторых работах мне ўдалося гэта зрабіць. Я кахаю мінулае, гісторыю, антыкварыят. І гэта перакладася таксама на мае творы. Ствараю графікі ды карціны на палатне і на дошцы ў класічнай тэхніцы.

«Слоўнік беларускіх мастакоў» – піянерскі праект Беларускага музея ў Гайнаўцы. Такі «слоўнік» сёння маюць усе вялікія бібліятэкі Польшчы: у Познані, Варшаве, Вроцлаве, Кракаве, Гданьску. Гэты праект увесь час дапаўняецца. Пачалі адкрываць новыя імёны, пра якія раней не чулі. Некаторых мастакоў ужо няма. У гэтым слоўніку з'яўляцца штораз новыя асобы, папаўняюцца каталогамі асобных творцаў. Былі тут, між іншым, паказы твораў з гэтага слоўніка Аляксандра Грамацкага, а. Сафронія (Віленты), Віталя Сарасека, Міхала Коца, Анатоля Краўчука, Цімафея Ціханюка, Аляксандры Чарняўскай, Станіслава Паскробкі, Славаміра Смыка, Пятра Гагана (выстава Пятра Гагана „Белавежская пушча" працуе ў Музеі да лютага), Віктара Кабаца. Новай задумай Віктара Кабаца з'яўляецца заснаванне беларускага саюза мастакоў у Польшчы, сярод іх таксам будзе месца і Уладзіміру Блюдніку.

**Міраслава Кастанчук**

## Benefis Mikołaja Woronieckiego

9 stycznia 2016 roku w świetlicy w Lewkowie Starym w gminie Narewka odbyło się uroczyste podsumowanie pracy twórczej Mikołaja Woronieckiego, miejscowego poety, piszącego wiersze w języku białoruskim.

Urodził się on 3 stycznia 1946 r. w pobliskiej wsi Olchówka, pracował zaś jako nauczyciel w szkołach w powiecie hajnowskim. Przez pięć lat był kierownikiem muzycznym zespołu artystycznego „Narauczanki".

Mikołaj Woroniecki zaczął pisać utwory poetyckie w 1970 roku. Pracował wówczas w szkole w swojej rodzinnej wsi. Jego wiersze były drukowane na łamach tygodnika „Niwa" m.in. w latach 1974-1977 oraz w latach 1981-1987.

Tworzy on dalej i chętnie jeździ na spotkania z czytelnikami. Bierze udział w konkursach literackich. Jest laureatem ogólnopolskiego konkursu białoruskiej poezji i prozy „Debiut". Do wielu jego wierszy Mikołaj Miażenny, kierownik muzyczny „Cegiełek", napisał nuty i są one śpiewane przez zespoły artystyczne „Cegiełki" (Lewkowo Stare), „Narewczanki" (Narewka) i „Wrzosy" (Czyże).

Organizatorzy benefisu – Urząd Gminy, Gminny Ośrodek Kultury oraz Komisja ds. Socjalnych i Społecznych Rady Gminy w Narewce – wydali tomik wierszy Mikołaja Woronieckiego „Żywuć piesni". Podczas uroczystości rozdawał on zaproszonym gościom książkę ze swoim autografem. Został też wyświetlony film o poecie w reżyserii Jerzego Rowińskiego. W części artystycznej wystąpiły dwa zespoły z gminy Narewka i jeden z Czyż. Śpiewały one piosenki do słów wierszy jubilata.

Na benefisie były gratulacje, piosenki i upominki dla jubilata. I był poczęstunek. W imprezie wzięli udział m.in. wójt gminy Mikołaj Pawilcz, dyrektor GOK Helena Rejent, radny powiatowy Mirosław Kulbacki oraz radni gminni Leon Chlabicz i Jan Ciełuszecki. Przyjechali też dziennikarze radiowi i telewizyjni z Białegostok, a także dziennikarka i poetka Mira Łuksza, która jest redaktorem zbiorku wierszy „Żywuć pieśni" Mikołaja Woronieckiego. Byli również obecni liczni koledzy autora z grupy literackiej, działającej w gminie Narewka.

**Jan Ciełuszecki**

## Film o białoruskich lękach, postawach i marzeniach

„Siaroża", najnowszy dokument Jerzego Kaliny, to zarazem jeden z najważniejszych filmów o podlaskich Białorusinach.

Archimandrytę Gabriela, Doroteusza Fionika i Sergiusza Niczyporuka, bohaterów trzech ostatnich filmów dokumentalnych Jerzego Kaliny, wyprodukowanych dla Belsat TV, można uznać za przewodników, wprowadzających widzów w złożone losy podlaskich Białorusinów. Każdego z nich cechuje inny rodzaj duchowości. Religijna i społeczna duchowość wydaje się być kluczem do zrozumienia tych trzech obrazów i



Фота Янкі Целушэцкага

**Мікалай Варанецкі падпісвае свой зборнік раднаму Лявону Хлябічу**




Fot. Facebook

Jerzy Kalina z medalem św. Jana Klimaka otrzymanym za film „Siaroża”

zarazem Białorusinów na Białostocczyźnie.

Życie Siaroży Niczyporuka zaczęło się tuż po tragedii roku 1946 w cieniu osobistej tragedii rodziny i całej wsi. Ojciec stracił wówczas synów i ciężarną żonę, przy życiu pozostały córki. Założył potem nową rodzinę i miał nowe dzieci, w tym pana Siarożę.

A życie głównego bohatera pełne było punktów zwrotnych. Budował komunizmu, poszedł do seminarium duchownego, współtworzył na szczeblu lokalnym „Solidarność”, poprowadził własne, popularne gospodarstwo agroturystyczne. Wszystkich tych historii słuchamy razem z Jarosławem Iwaniukiem, dziennikarzem Polskiego Radia Białystok. Ich spacerom po malowniczych okolicach Puszczy Białowieskiej towarzyszy kamera Jerzego Kaliny. Jest z nimi, gdy oglądają powalone dęby, gdy obserwują stado żubrów czy gdy przygotowują do wędzenia kiełbasę. Aby nieco zobiektywizować opowieści głównego bohatera, redaktor Iwaniuk wybiera się do białostockiego oddziału IPN, gdzie pyta o okoliczności pacyfikacji białoruskich wsi w 1946 roku, jak też do archiwum państwowego w Białymstoku gdzie rozmawia o stosunku prawosławnych do „Solidarności”.

45-minutowy dokument pozostawia wielki niedosyt. Ważne dla naszego środowiska zagadnienia ukazuje w sposób skondensowany. Niekiedy brakuje momentu wytchnienia, od archiwalnych zdjęć związanych z pacyfikacją reżyser szybko przechodzi do komentarza historyków na temat roli, jaką w kształtowaniu tożsamości miejscowych Białorusinów spełniła ta tragiczna karta ich historii.

W filmie nie brakuje wyjątkowych kadrów wykonanych z lotu ptaka, w tym przypadku z lotu drona. Oglądamy w ten sposób m.in. cerkwie w Sakach i Dubiczach Cerkiewnych. Kamera dość często zatrzymuje się na twarzy głównego bohatera, dobre wrażenie robi też jego niski, interesujący głos.

Panu Sergiuszowi towarzyszymy podczas pracy na dachu, spotkania z grupą młodzieży w skansenie, podczas święcenia pokarmów przed Wielkanocą w Białowieży. Mierzymy się ze świadectwem jego życia, anegdotami i głębokimi przemyśleniami na temat miejsca człowieka na ziemi. Jego postać i charyzma buduje nastrój tego filmu. Opowiada historię swego życia ciekawie i szczerze.

„Siaroża” to bez wątpienia jeden z najważniejszych filmów w dorobku Jerzego Kaliny. To dokument opowiadający o całym powojennym pokoleniu podlaskich Białorusinów, o ich lękach, marzeniach i postawach. Pod koniec lat 90. Niczyporuk miał być bohaterem filmu Wojciecha Worotyńskiego, opowiadającego o wydarzeniach z 1946 roku. Tamten obraz nie został dopuszczony w TVP do emisji. O dokumencie Kaliny będzie jeszcze głośno. Pod koniec stycznia otrzymał już pierwszą nagrodę – medal św. Jana Klimaka – na Międzynarodowym Festiwalu Kinoforum w Dniepropietrowsku.

**Tomasz Sulima**

# *Две рôдны мовы*

Памятаю як недзе ў 2002 годзе ў час беларускага рэйду па Беласточчыне начаваў ля мяжы, у Мастаўлянах. Гаварыў тады думна на сваёй беларушчыне якой ганарыўся. Нечакана мясцовыя назвалі мяне ўкраінцам. Маладому хлапчуку з Бельска стала крыўдна і незразумела. У студзені на старонцы «Нашай Нівы», а потым таксама ў сацсетках, прайшла дэбата наконт ідэнтычнасці Берасцейшчыны, якую пачала Наталка Бабіна. Яна зараз украінка, якая хоча зберагчы ўкраінскасць рэгіёна. Прапануе распаўсюд „Слоўніка Берасцейшчыны” Уладзіміра Леанюка, якога востра атакуе з беларускіх пазіцый Стас Карпаў, маўляў – „зрабіце ў нас другі Данбас”. Прапанова Алеся Чайчыца для палешукоў нейтральная: рэгіяналізм без палітыкі.

Тэма здаецца быць адкрытай таксама і на нашым Падляшшы, паколькі ўкраінскіх арганізацыяў у нас зараз багата. Яны прызнаны, фінансуюцца падобнымі сродкамі польскай дзяржавай як і беларускія арганізацыі. Такія часопісы як „Над Бугам і Нарвай” доўгі час вялі змаганне з беларускасцю Бельшчыны і Гайнаўшчыны кожны раз выходзячы з моўных пазіцый.

Пачаць трэба з гісторыі падляшска-палескага рэгіёна. Гэта папраўдзе ўскраіна Польшчы, старажытнай Літвы і Русі, якая стала Украінай. Доўгі час Брэст як і Бельск існаваў у Галіцка-Валынскім Кня-

стве. І тут праблема, ці гэта вытокі беларускай дзяржаўнасці, ці ўкраінскай? Дасучаснай. Канчаткова споры можна весці без канца. Народ Берасцейшчыны, як і вялікая частка палешукоў, быў доўгі час называны маларускім. Так пра праваслаўных жыхароў Бельска пісаў настаяцель Міхайлаўскага прыхода а. Тарановіч.

Але як растлумачыць і перакласці дасучасныя катэгорыі на сённяшні лад? Пачаць трэба ад таго, што нацыя, якую мы зараз ведаем, абгрунтавана на вузка прынятай культуры, гістарычнай міфалогіі ды кадыфікаванай мове, гэта твор толькі XIX ст. Таму нельга вызначыць маларусаў -- сённяшнімі беларусамі або ўкраінцамі. А прыкладамі такіх спробаў у дыскусіі з'яўляюцца Наталка Бабіна і Стас Карпаў. Наколькі добра зразумеў прапанову, справа ў тым, каб нарысаваць лінію дзе канчаецца беларускасць, а дзе пачынаецца ўкраінскасць. Таму што таго ад іх чакае сучасная нацыянальная міфалогія, якая не любіць перыфэрыяў ды культурніцкіх памежжаў.

Палессе можна і трэба разглядаць як культурніцкаю краіну, якая магла стаць асобнай дзяржавай, а палешукі нацыяй. Такім чынам як у Ноўгарадзе. Гісторыя склалася так, што наўгарадчане зліліся ў маскоўскім моры з іншымі этнасамі, а палешукам наканавана дзяліць Беларусь з Украінай. Але ж палескі патэнцыял дагэтуль моцны! Паводле палескага мовазнаўцы Фёдара Клімчука, палеская мова складае на сённяшні дзень 14 дыялектаў. Такая ж мова яшчэ нядаўнім часам на Падляшшы называлася каралеўскай. Як даказвае рэгіяналіст Дарафей Фіёнік, падляшукі трымаюцца моўнай спадчыны Вялікага Княства Літоўскага і дагэтуль, хаця вядома, што мова мяняецца. Фактычна, калі параўнаць гістарычны тэкст часоў Ягелонаў да сённяшняй гаворкі на Бельшчыне ці Кобрыншчыне, трэба прызнаць, што захавалі яны больш архаікі чым сучасныя, нацыянальныя мовы.

Дык чаму ж не прызнаць каралеўскай мове Падляшша і палескай Палесся статусу дзяржаўнай? Мова беларуская быццам бы адна, хаця ў двух правапісах. Але ж яна не аб'ядноўвае ўсёй тэрыторыі! Яна выключае жыхароў Берасцейшчыны маларускага паходжання. Мадэльная інтэрпрэтацыя мовы не служыць інтэграцыі, тым больш што афіцыйная мова ніколі не ўжываецца ў дакладным выглядзе ў вуснах карыстальнікаў. Гэтае закрытае становішча лічу памылковым. Боязь перад актывістам падляшскай мовы Янкам Максімюком як ідэалагічным сепаратыстам паказвае галоўную слабасць вузкай беларушчны пабудаванай на эксклюзіўнасці.

Беларусы маларускага паходжання, як падляшукі ці палешукі, невінаватыя ў гісторыі. Яны маглі стаць украінцамі, але так не склалася. У іх культурніцкае багацце і своеасаблівы ўклад у беларускасць. Шкада, што ідэалагізаваная частка беларусаў не хоча таго прыняць.

А берасцейская праблема ўкраінскасці будзе ажыццяўляцца ў будучыні такім чынам як на Падляшшы. Зараз яна ў падполлі як варожая лукашэнкаўскай дзяржаўнасці, але толькі калі памяняецца ўлада і стане нацыянальна-дэмакратычнай, палескае пытанне вернецца з усёй моцай.

**У дзень роднай мовы, які святкуем 21 лютага, хочу вам сказаті што я белорус, но я знаю нэ то̂лько одну родну мову. Так як у мэнэ в сэрці По̂дляшэ і Белорусь, так і две свої, впоўне родны мовы.**

**Тамаш Суліма**

**Віслава Шымборская**

## Буфо

Спачатку міне нашае каханне,
пасля сто і дзвесце гадоў,
пасля зноўку будзем разам:

камедыянтка і камедыянт,
улюбёнцы аўдыторыі,
сыграюць нас у тэатры.

Малы фарс з куплетамі,
трохі танца і шмат смеху, трапны малюнак нораваў
і апладысменты.

Будзеш смешны нястрымна,
на той сцэне, з той раўнівасцю,
у гэтым галстуку.

Мая галава набок,
маё сэрца і карона,
лопае дурное сэрца
і ўпадзе карона ўніз.

Будзем сустракацца,
расставацца, смех у зале,
сем рэк і гораў сем
між сабою меркавалі.

І быццам нам было мала
сапраўдных параз і пакут
– даб'ем словамі адзін аднаго.

А пасля сагнемся ў паклоне
і будзе фарса канец.
Аўдыторыя пойдзе спаць,
пацешыўся намі да слёз.

Будуць яны жыць прыгожа,
прыручыўшы каханне,
тыгр будзе есці ім з рукі.

А вы вечна нейкія такія,
а мы ў шапках са звончыкамі,
у іх звон варварска
ўслуханыя.

*Пераклад Міры Лукшы*

**Barbara Goralczuk**, Bielsk

### Nezwyczajny deń

Diś u naszych mołodeńkich
Nezwyczajny wielmi deń,
Bo to disiajka raneńko
Urodiwsia u jich syn.

Usie żdali, dohladali,
– a najbuolsz żdala wona –
Po żywotiku hłaskali,
Kob jak kwietka rozćwiła.

Nu, i chłopczyk narodiwsia,
Płacze bat'ko mołodyj,
I ne może nadiwit'sia,
Jakij hoży joho syn!

Mama synka prytulaje,
I śmiječć do mużyka.
Mnoha szczast'ia wam żadajem
Mama, tata i ditia!

**Валянціна Мядзведзь**, Беласток

### Ачаравальныя вочы

Вочы чорныя разгарэліся,
проста ў вочы мае ўглядзеліся
і зноў ачаравалі мяне яны,
ізноў на многія гады.

Вочы гэтыя ачаравальныя,
вельмі, вельмі прыцягальныя,
усё чаруюць зноў і зноў,
абяцаюць мне любоў.

Гэта ўсё я добра бачу
і хачу так адказаць:
Калі хочаш быць са мною,
трэба кахаць, не чараваць!

Калі трава завяла, зблекла,
знікла ўся надзея.
Распырснуліся чары,
асталіся мары.

***Лечымся зёлкамі***

# *Чарнушка-нігела. Лечыць усе, акрамя смерці*

Тое, што нашы продкі ведалі, сучасныя навукоўцы пацвярджаюць у шматлікіх даследаваннях (у цяперашні час больш за 700 даследаванняў): чарнушка (чорны кмен) на самой справе з’яўляецца панацэяй на многія хваробы.

Вось 20 прычын, з-за якіх чарнушку і алей з яе варта палюбіць:

1. Мае імунапратэкцыйнае дзеянне. Змешчаныя ў ёй злучэнні ўзмацняюць імунную сістэму, стымулюючы, у прыватнасці, сінтэз інтэрферону ды павелічэнне колькасці лімфацытаў і макрофагаў, якія стаяць на варце нашага здароўя. Варта пакарыстацца чарнушкай асабліва на рубяжы сезонаў, каб падмацаваць арганізм.
2. Паляпшае настрой людзей, пакутуючых алергіяй. Рэгулярнае спажыванне чарнушкі 6-8 тыдняў прыводзіць да значнага паляпшэнню сімптомаў. Чарнушка – як вітамін С – выдатны антыгістамінік.
3. Аказвае дапамогу астматыкам. За некалькі тыдняў выкарыстання алею з чарнушкі дасягаецца значнае паляпшэнне ў 80% хворых (асабліва дзеці рэагуюць станоўча), паляпшэнне функцыі лёгкіх, сціхаюць хрыпы і можна паменшыць дозу звычайных фармацэўтыкаў (інгалятараў).
4. Дапаможа справіцца з анеміяй. Шматлікія даследаванні паказалі, што рэгулярнае выкарыстанне чарнушкі падняло ўзровень гемаглабіну і эрытрацытаў. Няўжо неабходна харчаванне мёртвымі тканкамі жывёл, калі можна выкарыстоўваць чарнушку? Лекары ўпарта раяць «есці шмат мяса» ў анеміі. Як можаце ўбачыць, гэта спажыванне мяса гэта не адзіны спосаб, каб сказаць «да пабачэння» анеміі.



**Чарнушка – чорны кмен (nigella sativa)**

5. Чарнушка мае моцнае антыбактэрыйнае, супрацьвіруснае і супрацьгрыбковае дзеянне. Навукоўцы падазраюць, што з-за вялікага ўтрымання тымахінону. Спажыванне чарнушкі прывяло за 3-10-дзённы курс да спынення росту патагенных мікраарганізмаў, у тым ліку Candida Albicans. У эпоху паўсюднага росту цвілі, а таксама пры маючым адбыцца рубяжы сезонаў, як звычайна, пры росце прастуды, грыпу, інфекцыі пазух, бранхіту і г.д. трэба памятаць гэты факт: у чарнушцы сіла!
6. Валодае супрацьпаразітарнай актыўнасцю. Алей з чарнушкі паказаў у даследаваннях спрацьсаліцёрнае дзеянне ў дзяцей з ценіідозамі. Чарнушковыя курацыі аказаліся эфектыўнымі ў выпадку інфекцый

трэматодамі (przywry), не выклікаючы якіх-небудзь пабочных эфектаў. Чарнушка шляхам паляпшэння імуннай функцыі таксама эфектыўна змагаецца з вастрыцай, бластацытозай, і нават трыхінеламамі. У гэтых адносінах, алей з чарнушкі мае яшчэ больш моцныя эфекты чым часночны алей.

7. Чарнушка абараняе ад уздзеяння радыяцыі. У даследаваннях чарнушка прадухіляе пашкоджанні, выкліканае янізуючым выпраменьваннем у прамянёвай тэрапіі. Гэта важная інфармацыя для тых, хто падлягае апрамяненню ў прамянёвай тэрапіі рака.
8. Дапамагае пазбавіцца ад гіпертаніі. Чарнушка не толькі зніжае артэрыяльны ціск і памяншае рызыку ўзнікання згусткаў, але і прадухіляе залішні гомацыстэін, які прыводзіць да развіцця атэрасклерозу.
9. Яна прадухіляе ўзнікание камянёў у нырках. Зніжае канцэнтрацыю аксалатаў у мачы, і тармозіць узнікание камянёў у нырках.
10. Дзейнічае супрацьязвава ў страўніку. Алей з чарнушкі павялічвае колькасць слізістага сакрэту ў слізістай абалонцы страўніка. Чарнушка мае таксама даказаную эфектыўную здольнасць дзеяння супраць бактэрый Helicobacter Pylori. Прыносіць палёгку пры сімптомах страўнікава-страваводнага рэфлюксу.
11. Валодае цітатаксічнай – супрацьракавай актыўнасцю. Тармозіць развіццё крывяносных сасудаў і метастазіраванне ракавых клетак, стымулюе сінтэз цытокіны, інтэрлейкіны, TNF-α і інтэрферону, імунаглабулінаў, накіраваных супраць антыгенаў рака. Чарнушка таксама мае здольнасць індукаваць апоптоз (запраграмаваную гібель) ракавых клетак – яна моцны антыаксідант. Даследаванні былі зробленыя ў дачыненні да многіх відаў раку, у тым ліку лейкеміі, тоўстай кішкі, лёгкіх, маткі, прадсталёвай залозы, малочнай залозы, тоўстай кішкі, печані, галаўнога мозгу або нават вельмі небяспечнага і падступнага рака падстраўнікавай залозы. Чарнушка не робіць шкоды ў нармальных клетках.
12. Дапамагае кантраляваць змены скуры. Алей з чарнушкі традыцыйна выкарыстоўваецца ў выпадках акне (trądzik), псарыязу (łuszczyca) і атапічнага дэрматыту, стрыгучага лішая, сыпу, зменаў выкліканых бактэрыяльнай інфекцыяй або сонечнага апёку.
13. Мае супрацьдыябетнае дзеянне. Рэгулюе ўзровень цукру ў крыві: абараняе падстраўнікавую залозу, спрыяе яе рэгенерацыі і праліферацыі панкрэатычных астраўкоў бэта адказных за інсулін.
14. Абараняе ад пашкоджання печані і нырак. Заадно, калі шкодным фактарам з'яўляюцца цяжкія металы або ўваходзячыя ў сістэму ксенабіётыкі (напрыклад, лекі), чарнушка абараняе важныя органы: ачышчае сістэму ад таксінаў і аднаўляе нармальны ўзровень маркераў акісляльнага стрэсу.
15. Абараняе ад астэапарозу. Павелічае мінеральную шчыльнасць касцяной тканкі, дзякуючы кампактнасці тоўстых кіслот і моцнага антыаксідантнага і супрацьзапальнага дзеянняў.
16. Супакойвае цэнтральную нервовую сістэму. Было ўстаноўлена антыдэпрэсантнае, седатыўные (супакойваючае) і анксіялітычнае (спрацьлякавае) дзеянне чарнушкі. Можна сказаць, што дзейнічае як адаптаген, павялічваючы нашу ўстойлівасць да стрэсу, прадухіляючы дэпрэсіўныя станы і трывогу, паляпшаючы настрой. Перспектыўна бачыцца ў якасці зброі ў барацьбе з сімптомамі эпілепсіі або хваробы Паркінсана.
17. Карысная ў выпадку аўтаімунных захворванняў. Мае выдатныя супрацьзапаленчыя ўласцівасці, антыгістамінныя і зніжаючыя акісляльны стрэс, дзякуючы якім чарнушка прыносіць пацыентам паляпшэнне настрою і зніжэнне сімптомаў.
18. Ідэальна спраўляецца з праблемамі валасоў. Супрацьдзейнічае лысенню, прадухіляе выпаданне валасоў, дазваляе пазбавіцца ад перхаці і свербу, выкліканага запаленнем, стымулюе рост валасоў і павялічвае густасць чупрыны.
19. Паскарае гаенне ран. Язвы, парэзы, расколіны, гнойныя змены і г.д. гояцца хутчэй дзякуючы чарнушцы.
20. Аказвае станоўчы ўплыў на рэпрадуктыўную сістэму. Рэгулюе менструацыі, спрыяе лактацыі ў кормячых маці, павялічвае ўзровень тэстастэрону ў мужчын.

Як выкарыстоўваць чарнушку?

Чарнушка можа быць выкарыстана як мясцова (на скуру, валасы і пазногці) і ўнутрана. Выкарыстоўваецца або зерне (цэлыя, стоўчаныя ў ступцы або змеленыя ў кавамолцы), або алей з халоднага адціскання. На Блізкім Усходзе вераць у тое, што прафілактычнае жаванне «для здароўя» 10 зярнят чарнушкі ў дзень адлаляе ўсе хваробы.

У кухні прафілактычна, як спецыя змолатая чарнушка дасканала замяняе перац. У адрозненне ад яго, аднак, не раздражняе страўнікава-кішачны тракт і не закісляе арганізму (перац акісляе). Цэлае або молатае насенне можна дадаваць да хлеба і пірагоў (як пасыпка зверху), у супы, салаты, бутэрброды, у бігас і іншую тушаную гародніну, у хатні сыр, у віно ці пры квашанні гародніны.

У выглядзе напару: заварыць як чай ці заліць кіпячай вадой 1 сталовую лыжку здробненага насення, запарваем каля 20 хвілін і адцэджваем. Гэта напар можна падсаладзіць мёдам. Ужываць вонкава для мыцця зменeных участкаў скуры, паласкаць валасы, а таксама ўнутр (піць 1/2 шклянкі настою 2-3 разы на дзень).

У выглядзе алею: для выкарыстання звонку на скуру ці валасы і ўнутрана (гарбатная лыжка алею 2-3 разы на

дзень, дзецям палову дозы). Алей з чарнушкі таксама выпускаецца ў капсулах, але гэтак выходзіць нашмат даражэй, чым набыты ў бутэльцы. Купляйце чарнушку як алей толькі з халоднага адціскання. Пасля адкаркавання захоўваць яго ў халадзільніку.

У выглядзе настойкі: паўшклянкі молатай чарнушкі заліць шклянкай спірту 40% і пакінуць стаяць на працягу па меншай меры тыдня, а затым адфільтраваць праз вату. Можна выкарыстоўваць звонку ці знутры падобна як алей. У выпадку грыбковай інфекцыі (напрыклад, Candida) настойка на спіртавой аснове з'яўляецца больш эфектыўнай, чым напар.

У выглядзе зёлкамёду: на кожную лыжку мёду дадаць чайную лыжку молатай чарнушкі і сцерці разам у кашку, вельмі карысна пры прастудзе: дзейнічае адхарквальна, здымае кашаль і боль у горле. Гэтую кашку таксама можна выкарыстоўваць мясцова ў выглядзе масачкі, а калі змелем насенне трохі грубей – для пілінгу (злушчання).

Бяспека чарнушкі. Як прыправа чарнушка выкарыстоўвалася нашымі продкамі спрадвеку, і не існуе ніякіх супрацьпаказанняў для выкарыстання яе ў якасці спецыі, нават падчас цяжарнасці. Падобна як іншыя вастрэйшыя ў смаку спецыі лепш не даваць яе дзецям да 1 года. Калі ямо тэрапеўтычна зерне або алей, дык падчас цяжарнасці і ў перыяд лактацыі не рэкамендуецца яна для рэгулярнага спажывання. Не было сцверджана ніякіх пабочных эфектаў ад прымянення зерня або алею чарнушкі, калі трымацца рэкамендуемых доз. Як і з усімі зёлкамі, якія выкарыстоўваюцца тэрапеўтычна, таксама лепш час ад часу рабіць кароткія перапынкі ў яе ўжыванні.

**Мірослава Кастанчук**

## *Пісьмы, запрашэнні*

### Конкурс „Ах, што гэта быў за шлюб!"

Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі запрашае ўсіх ахвотных да ўдзелу ў конкурсе пад загалоўкам:

**„Ах, што гэта быў за шлюб! – вясельныя абрады і абычаі ў Нараўчанскай гміне"**

Рэпартажы, інтэрв'ю і фотаздымкі можна дасылаць да **30 ліпеня** гэтага года ў Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы (адрас: ГАК, 17-220 Нараўка, вуліца Новая 3 „А").

За дэталёвай інфармацыяй можна звяртацца ў гмінную бібліятэку ў Гмінным асяродку культуры – да бібліятэкаркі Анны Стульгіс (яна член праўлення ТСНЗ): нумар тэлефона да яе 85 685 80 34, у гадзінах працы бібліятэкі ад 10 да 18 у працоўныя дні.

### Конкурс „Пазнай Беларусь – 2016"

**для дзяцей і моладзі асветных і культурных устаноў Польшчы**

**Тэрмін правядзення конкурсу**

I этап: 11 студзеня 2016 г. – 8 красавіка 2016 г. *(прыняцце для разгляду матэрыялаў);*

II этап: 11 красавіка 2016 г. – 13 мая 2016 г. *(падвядзенне вынікаў конкурсу).*

**Умовы конкурсу**

У конкурсе могуць прымаць удзел дзеці і моладзь, творчыя калектывы, гурткі асветных і культурных устаноў Польшчы ва ўзросце ад 5 да 19 гадоў (намінацыі конкурсу маюць чатыры ўзроставыя катэгорыі: 3-6 гадоў, 7-12 гадоў, 13-15 гадоў, 16-19 гадоў).

Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца працы на беларускай і польскай мовах. Вітаюцца арыгінальнасць і творчы падыход да афармлення.

**Намінацыі конкурсу**

- малюнак, пластычная праца пра Беларусь у свабоднай тэхніцы;
- фотаздымак аб Беларусі ці беларусах;
- літаратурны твор „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям'і";
- паэтычны твор (верш);
- мультымедыйная прэзентацыя аб Беларусі.

Да работ дадаецца наступная інфармацыя: імя і прозвішча, узрост удзельніка, адрас да карэспандэнцыі, назва асветнай ці культурнай установы.

**Прызы і ўзнагароды**

Па кожнай намінацыі вызначаюцца пераможцы па ўзроставых катэгорыях з прысуджэннем дыпломаў першай, другой і трэцяй ступені. Пераможцы конкурсу ўзнагароджваюцца каштоўнымі прызамі.

**Адрас да карэспандэнцыі**

*Галоўнае праўленне*
*Беларускага грамадска-культурнага таварыства*
*ў Польшчы*
*вул. Варшаўская, 11*
*15-062 Беласток*

*тэл.: 85 743 51 18,*
*факс. 85 743 57 18*



**Янка трымаў плуг, а Васіль паганяў коней. Іх бацька, Трахім, як заўсёды, стаяў і назіраў за працай. Зямля была яшчэ сырая. Сонца прыгравала і яна пацела вільготнай парай, якая, адарваўшыся ад ворыва, адплывала ў бок балота і гінула ў маладой альшынцы. Час ад часу з захаду на ўсход плылі, як галубы, белыя воблакі. Ім не было цяжка, у іх не было бацькаўшчыны. І вось Янка з Васілём змучыліся, яны аралі сваю бацькаўшчыну**...



**Аднойчы ў рубрыцы „Наша пошта” часопіса „Заранка” быў надрукаваны адказ рэдакцыі на ліст дасланы з Косава. А даслала гэты ліст на беларускай мове школьніца Марыя (Маня) Ласько. У лісце дзяўчына напісала і сваю казачку „Хітры цыган”. Рубрыку „Наша пошта” вяла асабіста Зоська Верас. Яна і паведаміла юнай аўтарцы з Косава, што „вельмі нас цешыць, што ты так ахвотна бярэшся пісаць у роднай мове**... (далей у наступных нумарах)


# *Czasopis*

Nr indeksu 355038, ISSN 1230-1876.
**Wydawca**: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich.
**Adres redakcji**:
Białystok, ul. Lipowa 4/221.
**Adres do korespondencji**:
„Czasopis”, 15-001 Białystok, skr. p. 262. **E-mail**: redakcja@czasopis.pl
http://czasopis.pl
Tel. (85) 653 79 66

**Redaktor naczelny**: Jerzy Chmielewski, tel. 502 661 316. **Zespół redakcyjny**: Wiesław Choruży, Helena Kozłowska-Głogowska, Sławomir Iwaniuk, Tomasz Sulima (sekretarz redakcji), Jerzy Sulżyk.

**Stali współpracownicy**: Piotr Bajko, Siarhiej Czyhryn, Tamara Bołdak-Janowska, Agnieszka Goral, Mirosława




Łuksza, Mateusz Styrczula, Dorota Wysocka, Ewa Zwierzyńska.
**Druk**: Zakład Poligraficzny ARES, Białystok.

**Prenumerata**: Odpowiednio do liczby zamawianych egzemplarzy i okresu prenumeraty należy wpłacić wielokrotność 5 zł na rachunek: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich: Bank PEKAO S.A. Białystok 30 1240 5211 1111 0000 4928 9343.

Беларускі грамадска-культурны часопіс, прысвечаны пытанням сучаснасці, гісторыі, літаратуры і мастацтва, месца чалавека ў свеце. Форум думкі беларусаў і ўсіх тых, каму блізкая беларуская тэматыка. Пазіцыі аўтараў тэкстаў не заўсёды адпавядаюць пазіцыям рэдакцыі. Не публікуюцца матэрыялы, якія прапагандуюць камуна-фашызм, расізм, нацыянальную варожасць.

Artykuły i listy publikowane są – o ile autor nie życzy sobie inaczej – w języku oryginału: po polsku lub białorusku. Redakcja zastrzega sobie prawo do skrótów, zmian tytułów i redagowania nadesłanych tekstów.
Materiałów nie zamówionych redakcja nie zwraca.
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.*

Numer złożono 30 stycznia 2016.